БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 2 (13534)

6 — 12 студзеня 1992 года

Цана 1 рубель (па падпісцы — 35 кап.)

Пралетарыі ўсіх краін (СНД), яднайцеся!

## ЧЫТАЙЦЕ Ў НУМАРЫ

## Погляд

Мы яшчэ жывём святам. Дапіваем ды даядаем тое, што засталося пасля навагодняга стала, тое, што набывалі яшчэ не па купонах, а проста на савецкія рублі.

Беларусь. Самая спакойная рэспубліка. Тое, што адбываецца ў Грузіі, у Карабаху, у Малдове, часам тлумачаць гарачай крывёй іх насельнікаў. Дык хіба ў нас, у беларусоў, кроў сцюдзёная? Відаць, не, бо калі мы нават і не штурмуем Дом урада, затое ў тралейбусах піхаемся так, што, здаецца, стаім на парозе грамадзянскай вайны ў адной асобна ўзятай транспартнай адзінцы.

А тым часам Садружнасць Незалежных Дзяржаў, якая не паспела яшчэ нарадзіцца, развальваецца. Відаць, не спрыяе беларускае паветра прыняццю неабдуманых, неабгрунтаваных рашэнняў.

Дзе ж той камень, аб які спатыкнуліся пагадненні, што напоўнілі надзеяй сэрцы прыхільнікаў Садружнасці? Гэта нават не камень, а сапраўдны Эверэст самых важкіх пытанняў, праблем, не рашыўшы якія немагчыма ўступіць у адзінства. Войска. Здаецца, каму яно зараз патрэбнае? З кім мы будзем ваяваць, ад каго абараняцца? Так думаюць толькі наіўныя людзі, святыя ў сваёй супакоенасці. Калі Беларусь, напрыклад, міралюбівая дзяржава і за ўсю сваю гісторыю ні на каго не нападала, гэта яшчэ не значыць, што ніхто не спакусіцца на смачны пірог беларускай зямлі. Палітыка — справа несумленная, і за запэўніваннямі аб міралюбстве могуць стаяць цалкам адваротныя намеры. Прага да міру нашай маладой рэспублікі павінна быць падмацаваная надзейнай мабільнай арміяй. Народ, які згубіў ідэалы, больш у партызаны не пойдзе.

Пасля ж войску на першым месцы стаяць пытанні эканамічныя. Пагадненні аб адзінай эканамічнай прасторы, аб захаванні рубля як агульнай валюты не выконваюцца, і бачна па ўсяму, на месцы адзінай рублёвай прасторы стане 15 нацыянальных валют. Першыя крокі да гэтага ўжо зроблены. Украіна надрукавала свае купюры, якія хутка заменяць тамтэйшыя купоны, гэтым жа шляхам ідзе Беларусь. Вымушаныя меры. Інакш нас проста расцягнуць, расцягнуць бессаромна, як гэта ўжо робіцца. Галодная Расія ўжо забылася, што такое мяса, масла, у яе буйнейшых прамысловых раёнах, разлічаных на беларускую бульбу, хутка пачнецца голад. Да самага апошняга часу замест таго, каб развіваць сваю сельскую гаспадарку, Расія спадзявалася "на абы". Галадае Урал, Пскоўшчына, Браншчына, Смаленшчына, што ж датычыцца Масквы, там цяпер стала жыць проста немагчыма. Указы Ельцына могуць паспрыяць развіццю сельскай гаспадаркі, але на гэта пойдзе не адзін месяц. А голад на парозе. Можна абысціся без дываноў, мэблі, упрыгожанняў, але як абысціся без малака, хлеба? А варта нагадаць, што яшчэ ў XYIII стагоддзі пад Пецярбургам вырошчвалі кавуны, ананасы, а праблема голаду ўзнікала толькі перад горкімі п'яніцамі. Цяпер жа...

Галоднаму чалавеку не загадаеш. Ужо зараз у чэргах за хлебам цісну́ць насмерць старых і дзяцей. Вядома, і Беларусь і Украіна дапамогуць, але каб нам самім не застацца галоднымі так, як мы ўжо засталіся голымі!

Ельцын кіраўнік жорсткі. Ён шырокіх жэстаў рабіць не будзе. Расійская манаполія на асноўныя прыродныя рэсурсы можа выйсці бокам нашай рэспубліцы. Умовы, якія ставіць кіраўніцтва Расіі, пагражаюць пакінуць нас без сыравіны. Тым больш, пры нашым паслухмяным урадзе, які, у адрозненне ад Барыса Ельцына, заўсёды робіць шырокія жэсты. Каб не спакушацца, не спадзявацца на дабрыню расійскіх магнатаў, каб захаваць парытэт, каб напоўніць паліцы крамаў — перш за ўсё патрэбна фінансавая рэформа.

Беларуская валюта. Мала хто сумняваецца, што яе ўвядзенне вырашыць калі не ўсе, дык вельмі многія праблемы. Тады спыняцца спробы асобных рэспублік трапіць у рай на нашым карку. Вядома, для гэтага перш за ўсё патрэбны пагадненні. Пагадненні раўнапраўных, а не заключаныя за келіхам "Зуброўкі" ў Белавежскай пушчы, альбо за міскай плову ў Алма-Аце. Палітыка так не робіцца, што і пацвердзілі апошнія падзеі, якія паставілі існаванне СНД пад вялікае пытанне.

Цяжкі год. Кажуць, што ў высакосны год памірае вельмі шмат людзей... Але — у Навагоднюю ноч ля ёлкі, што стаяла побач з помнікам Скарыны ў Полацку, ды і трыма днямі пазней, калі ў падземным пераходзе ля мінскай Камароўкі расцягвалі гармонік і білі ў бубен вясёлыя шчырыя валачобнікі, я бачыў добрыя ўсмешкі на тварах людзей. Гэта не пір пад час чумы. Гэта натуральная чалавечая з'ява — нават у часы цяжкіх выпрабаванняў спадзявацца на лепшае.

Алесь Палынскі.



## Міласэрнасць дзеяннем

Напярэдадні Новага года першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.У.Мясніковіч наведаў дзіцячыя бальніцы № 3 і № 4 г. Мінска і ўручыў дзецям падарункі. Іх даслала аўстрыйская дабрачынная фірма "Нордэкс", з якой наладжваецца цеснае супрацоўніцтва. Устанаўленню сяброўскіх і дзелавых кантактаў спрыялі сустрэчы М.У.Мясніковіча з прадстаўнікамі фірмы. На яго імя і былі дасланыя падарункі для беларускіх дзяцей.

• На здымку:
Міхаіл Уладзіміравіч Мясніковіч уручае падарункі маленькім пацыентам дзіцячай бальніцы № 3.

Фота Аркадзя Мікалаева (БЕЛТА).

## ЗАЯВА Сойму БНФ "Адраджэньне" аб нацыянальнай гвардыі

Бязьдзейнасьць, неініцыятыўнасьць Ураду й Вярхоўнага Савету ў вайсковым пытаньні вядзе да страты сувэрэнітэту Беларусі, да палітычнай і эканамічнай залежнасьці ад іншых краінаў. На Беларусі засталося велізарнае войска, не падкантрольнае Рэспубліцы, стратэгічная й тактычная атамная зброя. Аднак, пачынаючы з 25 жніўня, Вярхоўны Савет практычна адмовіўся рэальна вырашаць вайсковае пытаньне. Ня створана беларускае войска, Рэспубліканская гвардыя, памежная варта. Гэта ў той час, калі ўтвараюць свае ўзброеныя сілы Расея, Украіна, балтыйскія краіны, іншыя былыя савецкія рэспублікі.

У выніку, пачынаючы з 1992 году, на тэрыторыі Беларусі акажацца шматлікая армія чужой дзяржавы – Расейскай Фэдэрацыі. Расея, авалодаўшы манаполіяй на эмісію рублёў, аб'явіла, што будзе плаціць заработную плату былому савецкаму войску, што знаходзіцца ў нашай дзяржаве. А гэта значыць, што "напаўняць" таварамі й прадуктамі аддрукаваныя ў Расеі пустыя рублі павінна беларускае насельніцтва. Так спраўджваецца ісьціна – народ, які ня хоча карміць сваё войска, будзе карміць чужое. Так можа адбыцца ціхая акупацыя Беларусі.

Яшчэ ў жніўні, адразу пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, стыхійна пачала ствараца Нацыянальная гвардыя, у якую толькі ў Менску запісалася каля трох тысячаў чалавек. Аднак паколькі чакалася, што Вярхоўны Савет прыме пастанову аб Рэспубліканскай гвардыі Беларусі, фармаваньне Нацыянальнае гвардыі было спынена па ініцыятыве Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў і народных дэпутатаў ад БНФ.

Але дзяржава ня можа быць безабароннай. У такіх варунках Беларускі Народны фронт "Адраджэньне" ня стане больш стрымліваць натуральную ініцыятыву людзей да самаабароны й самазахаваньня, выкліканую клопатам пра існаваньне Рэспублікі Беларусі, клопатам пра ўласную будучыню, жыццё й дабрабыт. БНФ будзе спрыяць таму, каб Нацыянальная гвардыя ўтваралася законным шляхам. Людзі Беларусі знойдуць магчымасьць пастаяць за сваю свабоду, незалежнасьць і Бацькаўшчыну.

## Погляд



"Стартавай пляцоўкай" не толькі ў прафесію, але, магчыма, для некаторых рабят і ў космас становіцца Гомельскае вышэйшае прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Тут ужо два гады існуе маладзёжны навукова-тэхнічны цэнтр, клуб аматараў астраноміі і касманаўтыкі. Навучэнцы пад кіраўніцтвам вялікага энтузіяста касмічных даследаванняў, намесніка дырэктара вучылішча В.С.Ларыёнава, з захапленнем вывучаюць цудоўны і захапляльны Сусвет. Робяць рабяты ў клубе мадэлі ракет і зорных сістэм, вывучаюць тэорыю палётаў, выступаюць з рэфератамі і дакладамі.

Нядаўна член клуба, вучань 2-га курса Уладзімір Грышчанка стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу (па раздзелу гісторыі і тэорыі касманаўтыкі). Яго рэферат на тэму "Месяцаходы" адзначаны дыпломам Міністэрства народнай адукацыі Беларусі, Уладзімір узнагароджаны памятным медалём і каштоўным падарункам.

На здымку: Уладзімір Грышчанка.

Н. Бяльковіч.

## Ёсць пытанне!

Якія абрады выконваюць праваслаўныя хрысціяне пад час Калядаў?

М.Лізюк, Полацк.

На гэтае пытанне адказваюць святары Кафедральнага Свята-Духава Сабора г.Мінска.

Свята Калядаў — гэта свята нараджэння Хрыстова. Хрысціяне розных канфесій святкуюць яго ў розныя дні, праваслаўныя ж — у ноч з 6 на 7 студзеня. Пасля вячэрняй службы накрываецца стол, прычым на сталешню пад белы абрус кладзецца сена, што сімвалізуе нараджэнне Хрыста ў яслях. У Сачэльнік не дазваляецца скаромнае, таму на стол ставяцца да 12 посных страў. Гэта — посная куцця. Запальваюць свечкі, ежу пакуль не кранаюць, чакаюць Дзядоў. На Каляды ў хату павінны пускаць любога, хто б не пастукаўся ў дзверы.

Пасля таго, як на небе з'явяцца зоркі і кожны праваслаўны адшукае самую яркую з іх, можна ставіць на стол скаромнае. Зорка ж, якую шукаюць хрысціяне, сімвалізуе тую, што прывяла валхвоў у Віфлеем, да калыскі Хрыстовай. Людзі ўзгадваюць Хрыста, калядуюць, спяваюць.

У 2 гадзіны ночы пачынаецца Боская Літургія, пад час якой праваслаўныя прычашчаюцца святых таямніц.

Ад Калядаў да Хрышчэння (19 студзеня) — Святкі. Там, дзе яшчэ не забыліся на звычаі продкаў, калядуюць, славяць Госпада нашага і Ісуса Хрыста за выратаванне чалавецтва. Каляды — свята надзеі, светлы, святы дзень для кожнага хрысціяніна.

## Шчырасці і сяброўства

Пра арганізацыю "Шчырасць", што створана студэнтамі медыцынскага інстытута і займаецца дапамогай студэнтам-інвалідам, састарэлым людзям, змагаецца супраць наркаманіі, алкаголю і інш., я распавядаў на пачатку гэтага года ў артыкуле «Шчырая "Шчырасць"». Сяржук Цімохін, генератар ідэй і асноўны рухавік у дзейнасці гэтай гуманітарнай арганізацыі, казаў пра планы і цяжкасці, пра задумы. Час мінуў і было вельмі прыемна, калі Сяржук ізноў патэлефанаваў мне і запрасіў на ўрачыстае пасяджэнне "Шчырасці", прысвечанае падпісанню паміж Іхняй арганізацыяй і ліванскім Чырвоным Крыжам дамовы аб супрацоўніцтве і перадачы апошнім вялікай сумы грошай на карысць "Шчырасці".

Васыл Збеіце, старшыня Чырвонага Крыжа Лівана, выступаючы перад сябрамі маладзёжнай арганізацыі і перадаючы падарунак, так растлумачыў учынак сваёй арганізацыі:"У Ліване доўга ішла вайна супраць ізраільскіх захопнікаў, пад час якой ваша краіна шмат дапамагала нашай краіне. Сёння вайна ў нас, можна лічыць, скончылася, краіна квітнее. А ў вас, наадварот, вялікія цяжкасці. І тыя грошы, што мы сёння перадаём "Шчырасці", — кропля, якую мы можам вам вярнуць. Але кантакт гэты наш не апошні. Галоўная сумесная праца наперадзе".

Ірына Стэльмах, старшыня пярвічнай арганізацыі Чырвонага Крыжа ў медыцынскім інстытуце, дзякуючы за грошы, тым не менш вызначыла:"Галоўнае ўсё ж тое, што моладзь Беларусі і Лівана разам узялася за справу дапамогі людзям, што апынуліся ў цяжкім становішчы".

— На якія акцыі будуць выкарыстаны тыя грошы, што атрымалі вы сёння?— звяртаюся да старшыні "Шчырасці" Сержука Цімохіна.

— Дзесьці вясною мы плануем арганізаваць дабрачынную акцыю накшталт вялікага канцэрта, грошы ад якой выкарыстаем на дапамогу ўсім тым, хто мае ў гэтым патрэбу.,

Як "Шчырасць", так і ліванскі Чырвоны Крыж плануюць пашыраць свае сувязі. Гэта і сумесная дапамога састарэлым і інвалідам, абмен студэнтамі, іншыя акцыі. Што, безумоўна, выдатна. І ўжо не здзіўляе, што дапамогі лягчэй дачакацца з-за мяжы, чым ад роднага ўрада і прадпрымальнікаў.

Зм. Лукашук.

Калектыў штотыднёвіка "Чырвоная змена" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніку рэдакцыі Міхно Уладзіміру з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці маці ПАЛІНЫ АНДРЭЕЎНЫ.

# БЛУДНЫ СЫН, або Чые вы, хлопцы, будзеце?

Праект пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб беларускай мове і дзяржаўных сродках масавай інфармацыі" 7 сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь адхіліла. Па выніках галасавання для прыняцця пастановы-гаротніцы не хапіла аднаго адзінага голасу. Мажліва голасу народнага дэпутата Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, які ў спрэчках наконт прыярытэту беларускамоўных выданняў на Беларусі (! — ад аўт.) абурана заявіў:

"... люди говорят так: вы, пожалуйста, нас не давите, мы хочам размаўляць на той мове, на якой хочам. Ёсць закон "Аб мовах", давайте будем яго дапаўняць. Тем более смотрите пункт 1: "паскорыць поўны пераход тэлебачання і радыё Беларусі на беларускую мову". Скажыце, як можна паскорыць? Где тут критерии, по которым можно определиться и что-то тут паскорыць? Знаете, в старых партийных изданиях и документах всегда было — ускорить, поднять, понизить, повысить, снять,рекомендовать. Это из той оперы. Зачем принимать Верховному Совету такое позорное постановление? Простите меня, что я так сказал" (са стэнаграмы сесіі ВС РБ).

Па-першае, не ад пастановы вее партыйным дакументам, а ад выступу Аляксандра Рыгоравіча цягне скразняком партыйна-функцыянерскіх развag. Годзе, Аляксандр Рыгоравіч, пра які прымус вы гаворыце, калі маецца на ўвазе толькі драбніца з таго, што неабходна зрабіць дзеля захавання беларускай мовы. І колькі часу ў беларускім парламенце будуць весціся дэбаты пра неабходнасць беларускай мовы? Быццам Аляксандр Рыгоравіч не на нашай грэшнай беларускай зямлі жыве і не ведае, што мала прыняць закон, які рэгламентуе скарыстанне беларускай мовы: занадта шмат гадоў вынішчалася тое, што спрабуюць цяпер парламентарыі ўзняць адным заканадаўчым актам.

Мы не займеем ані вагі, ані павагі ў свеце. Народ без мовы, народ без шанавання сваёй гісторыі і духоўнасці не выкліча захаплення нідзе. Ці не ведаеце вы, Аляксандр Рыгоравіч, што найбольш лёгкі ў нашых умовах для сродкаў масавай інфармацыі менавіта рускамоўны шлях. Многія з выданняў, што напачатку меркаваліся як двухмоўныя,

## Кілбаса пачынае і выйграе

пакінулі на роднай мове хіба што свае назвы, астатнія — спрэс па-руску. Так зручней і чытэльна да таго ж, бо значна цяжэй уздымаць люд, абуджаць свядомасць і весці рэй, спакайней цягнуцца гужом за звычкамі, вымуштраванымі русіфікацыяй поглядамі. Так, кожны грамадзянін Рэспублікі павінен авалодаць дзяржаўнай мовай, але як гэта зрабіць, калі ён увесь час знаходзіцца ў стыхіі іншай мовы. Дзве праграмы па тэлебачанню рускамоўныя і толькі адна — беларуская, і па той няма чаго глядзець. Да таго ж і на радыё і на тэлебачанні ёсць праблема фонду беларускамоўных запісаў, без стварэння апошняга немагчымы пераход на беларускамоўнае тэлебачанне і радыёвяшчанне.

Спадзяёмся, што пры раскладзе бюджэту Рэспублікі Беларускі ўрад не пойдзе шляхам дэнацыяналізаванай большасці Вярхоўнага Савета.

Алена Агібалава,
тэл. 32-50-01.




*Водгалас на... уласны артыкул*

# "РАБСІЛА", ЗВАЖАЙ!

*У пасляслоўі да артыкула "Каму і як прадавалі рэвалюцыю" ("ЧЗ"—10.XI.91г.) рэдакцыя прадставіла мяне як прыхільніка сацыялістычнай ідэі. На самай справе ўсё нашмат прасцей. Па-першае, сацыялізм бывае розны, па-другое, і ў прыгаданым і ва ўсіх папярэдніх артыкулах робіцца ўсяго толькі гістарычны аналіз тых ці іншых з'яў сацыяльна-эканамічнага жыцця, г.зн. тое, што і абавязаны рабіць кожны гісторык: вывучаць мінулае, каб зразумець рэчаіснасць і прадказаць будучыню.*

Такі аналіз неабходны кожнаму, хто не жадае стаць сляпой зброяй у руках палітыканаў, якія шчодра вешаюць "лапшу на вушы" даверлівай аўдыторыі. Неабходны, каб не стаць фанатыкам нават самай шматабяцальнай ідэі, бо фанатык не заўважае недахопаў, а тых, хто паказвае на іх, лічыць або ворагамі, або "упорствующими в своих заблуждениях": для яго адно і тое ж. Неабходны, каб зноў, як было ўжо не аднойчы, не крычаць:"Падманулі, прадалі!!!"

Як жа яго рабіць, гэты аб'ектыўны гістарычны аналіз? Агульнавядомы ўжо банальны выраз: "Усё новае — гэта добра забытае старое". А гэта значыць, што калі "пакапацца" ў мінулым, то можна знайсці што-небудзь падобнае да той сучаснай з'явы, якая нас цікавіць. І чым больш агульных рысаў мы знойдзем паміж імі, тым большая верагоднасць прадказаць наступны ход развіцця таго ці іншага палітычнага альбо эканамічнага "пачына": якія сацыяльныя пласты выйграюць, а якія прайграюць.

Возьмем, да прыкладу, шырока рэкламуемую сёння ідэю "прыватызацыі", якая абяцае зрабіць усіх "гаспадарамі" зямлі, іншых сродкаў вытворчасці, кватэр і г.д. Шукаем якое-небудзь падабенства ў мінулым... Знаходзім Сталыпінскую аграрную рэформу 1906—1910 гг. Як вядома, яна дапускала правядзенне прыватызацыі абшчынных земляў і праследавала наступныя мэты:

- раскалоць сялянскую абшчыну, якая да гэтага выступала адзіным фронтам пад лозунгам:"Зямля нічыя, зямля боская"; распаліць у ёй міжусобную вайну і тым самым адцягнуць увагу сялянства ад рэвалюцыйнай ідэі канфіскацыі і перадачы памешчыцкіх, удзельных, манастырскіх і іншых земляў абшчынам, ад барацьбы супраць царскага ўрада, які перашкаджаў рэалізацыі гэтай ідэі;
- стварыць у сялянскай мясцовасці еўрапейскай часткі Расійскай імперыі апору царызму ў асобе "моцных гаспадароў", якія маглі б набыць буйныя кавалкі зямлі, а астатнюю, няздольную зрабіць гэта рэвалюцыйна настроеную "басоту" перасяліць (даўшы ссуды) на "вольныя" землі Сібіры і Туркестана (і тым самым "супакоіць" Расію);
- папоўніць дзяржаўную казну і кішэні чыноўнікаў за кошт афармлення аперацый па куплі-продажу абшчыннай зямлі, арганізацыі перасяленцкай кампаніі, продажу дзяржаўнай зямлі перасяленцам.

Падобныя мэты спавядаюць і сучасныя прыхільнікі прыватызацыі, якія маюць уладу. Ім таксама неабходна для захавання сваіх "партфеляў" пераключыць незадаволенасць большасці насельніцтва сённяшнім эканамічным становішчам у рэчышча міжусобнай барацьбы за падзел маёмасці, якая (як, напрыклад, зямля) яшчэ ў Кастрычніку 1917 г. была абвешчана агульнанароднай і якая не падлягала куплі-продажу. Пры гэтым і самі яны разлічваюць прыхапіць, карыстаючыся сваімі пасадамі, немалыя кавалкі агульнанароднай уласнасці. Апошнюю мы прывыклі лічыць адначасова і дзяржаўнай, хаця на самай справе дзяржава мае права прэтэндаваць толькі на тую яе частку, якая належыць ёй за арганізацыю вытворчасці матэрыяльных даброт і духоўных каштоўнасцей, іх размеркаванне, ахову і г.д. Не дзіўна, што многія называюць "прыватызацыю" "прыхватызацыяй".

Аднак, як вядома, і ў нас, і за мяжой ёсць нямала асоб, гатовых заплаціць за права "прыхваціць" немалыя грошы. І зразумела, што гэтыя "новыя гаспадары" будуць надзейнай апорай таго ўрада, які правядзе прыватызацыю ў іхніх інтарэсах. Таму нам зразумелыя тыя заклікі з парламенцкіх трыбун, як мага хутчэй сфармаваць у краіне клас прыватных уласнікаў. Для гэтага нават прапаноўваецца выдзяляць няздольным набыць на свае сабраныя грошы кавалак зямлі, кватэру і г.д. дзяржаўныя крэдыты, ссуды і нават штосьці перадаць бясплатна, толькі б гэты клас быў створаны. Тады, з пункту гледжання "вярхоў", будзе дасягнута галоўнае — уласнік не абвесціць забастоўку, не пойдзе на дэманстрацыю, на барыкаду. Яму будзе што згубіць. І так, тэарэтычна, краіна "супакоіцца". З другога боку, пустая дзяржаўная казна папоўніцца за кошт разавага выкупу тых ці іншых матэрыяльных каштоўнасцей, паступовых выплат па крэдытах, за кошт падаткаў на нерухомасць.

Такім чынам, нягледзячы на некаторыя адрозненні ў сацыяльна-эканамічным развіцці краіны, у маштабах правядзення і г.д., дзве гэтыя акцыі мелі агульныя мэты, агульныя метады. А калі так, то, магчыма, ведаючы лёс першай, у нейкай ступені, можна прадказаць, што адбудзецца ў выніку другой.

Як вядома, план П.А.Сталыпіна праваліўся. Нягледзячы на ўціск урада за 9 гадоў (1907—1915) у Еўрапейскай частцы Імперыі толькі 24 працэнты ўсіх сялянскіх двароў выйшлі з абшчын. Больш чым 2/3 хутка прадалі свае землі, паехалі ў горад ці папоўнілі рады перасяленцаў. Каля траціны апошніх, пазбаўленыя сродкаў для жыцця на новых месцах, вярнуліся назад, знявераныя і раззлаваныя. Гэта азлабленне прыняло масавы характар: у сувязі з ростам арміі беспрацоўных і расслаеннем сялянства на багатых і бедных. Таму Сталыпінская рэформа не "супакоіла" Расію, а толькі паскорыла набліжэнне рэвалюцыі. І не трэба быць Шпенглерам ці Фядотавым (прадказалі пачатак і ход II сусветнай вайны), Глобам, сучасным астролагам, каб прадракаць сучаснай прыватызацыі аналагічныя Сталыпінскай рэформе вынікі. Праўда, неабходна зрабіць папраўкі на сучаснасць.

Трэба ўлічыць, што ў першым, сталыпінскім, выпадку прыватызавалася толькі абшчынная зямля, а ў нашым — сродкі прамысловасці, якія да гэтага лічыліся агульнанароднай (дзяржаўнай) маёмасцю. Раней селянін-уласнік працаваў на сваім надзеле індывідуальна і жыў тым, што вырабляў сам, і толькі ў рэдкіх выпадках звяртаўся на дапамогу. Для яго пераход да прыватнай уласнасці не быў рэзкім. Для нашага работніка дзяржаўнага прадпрыемства, калгаса, саўгаса, які жыве на рэгулярную зарплату, не знаёмы з законамі рынку, працэс абяднення пойдзе значна хутчэй, чым у дарэвалюцыйнай Расіі.

Пры гэтым збяднелым гаспадарам не трэба цешыць сябе думкай, што пры рабоце па найму ва ўласніка яны будуць атрымліваць больш, чым-ся калі працуюць на дзяржаву. Сёння, калі кааператывы зацікаўлены ў пераманьванні да сябе работнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў, арганізацый і г.д. Калі ж з'явіцца армія беспрацоўных, барацьба паміж работадаўцамі "за кадры" аслабне. Ім будзе з каго выбіраць.

Дарэвалюцыйны селянін, выходзячы з абшчыны, губляў магчымасць карыстацца толькі ўласнымі пашамі, сенажацямі, вадаёмамі... Пры сучаснай прыватызацыі губляецца больш. Гэта калі дзяржава была маналітным работадаўцам, яна заўсёды цікавілася агульнай прафесійнай падрыхтоўкай "працоўнай сілы", падтрыманнем яе працаздольнасці. Пры агульнай жа прыватызацыі і з'яўленні рынку працоўнай сілы выдзяленне сродкаў на бясплатную адукацыю ўсяго насельніцтва, медыцынскае абслугоўванне, ахову працы, на выплаты па непрацаздольнасці і іншыя «перажыткі сацыялізму» становяцца нявыгаднымі для работадаўцаў.

Такі гістарычны аналіз можна зрабіць з любой іншай грамадскай з'явы і прыняць меры для таго, каб пазбегнуць нечаканых вынікаў. Напрыклад, князь Пацёмкін патрабаваў ад усіх аўтараў, што прапаноўвалі яму праекты рэформ, даведку: ці было што-небудзь падобнае ў мінулым і што з гэтага атрымалася...

Гістарычны аналіз, у прынцыпе, могуць праводзіць не толькі "эксперыментатары", але й "паддоследныя". Такім чынам апошнія здолеюць давядацца пра сваю будучыню, выбраць з арсеналу мінулага найбольш эфектыўныя сродкі дзеля абароны сваіх інтарэсаў. А вынайшлі азначаны гістарычны аналіз сацыялісты альбо хтосьці іншы — не так і важна.

Ю.Афонін,
гісторык.

# Чорны рынак Беларусі: ЗАКАНАМЕРНАСЦІ І ВЫПАДКОВАСЦІ

## I. Дзень учарашні

### • КАМЕРЦЫЙНЫ ГАНДАЛЬ

Чарговы скачок курсу даляра ў кастрычніку змёў з прылаўкаў камісійных крам "канверсуемыя" тавары — у прыватнасці, бытавую радыёэлектроніку. Камісіянеры не паспявалі пераафармляць апаратуру на новыя цэны, каб хоць неяк забяспечыць прыбытак.

Попыт на бытавую электроніку высокага класа пастаянна расце і значна апярэджвае прапанаванне. Адна з прычын таго — скарачэнне прытоку радыётэхнікі з Польшчы. Адносна стабільна працягваюць паступаць на беларускі рынак двухкасетныя магнітафоны тыпу АК-21 ("мыльніцы") коштам 1200-1500 рублёў.

**Узроўні цэн у камерцыйных камісійных крамах (сярэдзіна кастрычніка):**

Відэамагнітафоны – ад 16-17 тысяч рублёў да 20 тыс.

Мікрахвалевыя печы – 10-12 тысяч рублёў.

Тэлевізары (54 см) – 24-25 тысяч рублёў.

Тэлевізары (37 см) – да 15 тысяч рублёў.

Тэлевізары (46 см) – да 19 тысяч рублёў.

Аўдыёкасеты (нармаль) – 32-35 рублёў ("Soni", "Максвелл", "BASF" – 90-110 р.).

Відэакасеты (180 хвілін) – да 125 рублёў.

Больш пераважным выглядае асартымент тавараў, які прапануюць на чорным рынку. Аднак і цэны тут на 20-30 працэнтаў вышэй кошту тавараў у СКВ, пералічанага па чорнаму валютнаму курсу. На чорным рынку таксама адзначаецца знікненне высакаякаснай бытавой электронікі, стабільны рост цэн на тавары павышанага попыту (напрыклад, швейныя машыны "Ягуар", якія ў лістападзе прапаноўвалі па 3300-3500 рублёў, у кастрычніку выстаўляліся ўжо па 5500 рублёў). Скасаванне мытных пошлін на некаторыя групы імпартуемых тавараў (у лік якіх не трапіла тэлевідэатэхніка) зрабіла сур'ёзны ўплыў на структуру імпарту як дзяржаўнага, так і камерцыйнага гандлю. У прыватнасці, павялічыліся аб'ёмы прывозу прадукцыі лёгкай прамысловасці.

Прывядзём эвалюцыю кошту на курткі "Альпіна" (ФРГ):

Дзяржгандль – да 400 рублёў (цана арыенціровачная).

Рэчавы рынак – 800-1000 рублёў.

Камерцыйны камісійны магазін – 1500-1900 рублёў.

Сезонныя змены асартыменту тавараў у камерцыйным гандлі:

Боты жан.асеннія імп. – 1000-1200 (на рынку); 1500-1700 (у камісіёнцы).

Боты муж.імп. – 600-1100; 800-1500.

Джынсы (Тайланд) – 360-400; 380-420.

Швэдар (Турцыя) – 530-600; 600-700.

Куртка "вятроўка" (Кітай) – 580-650; 600-900.

Касцюм спартыўны (Кітай) – 1000-1500; 1350-1800.

Паліто пуховае (Кітай) – да 2500; 2500-2900.

Куртка скураная – да 3500 (Манголія); 4000-9700 (Турцыя).

У найменшай ступені зніжэнне курсу рубля адбілася на насычэнні рэчавага рынку, дзе існуе сур'ёзная канкурэнцыя паміж прадаўцамі. Новая крыніца паступлення тавараў — адкрытыя нядаўна "турыстычныя" паездкі ў Кітай. Паводле назіранняў экспертаў, кожны такі вояж прыносіць "вандроўніку" каля 30 тысяч рублёў у таварным выражэнні. Скажам, 8-10-даляравы спартыўны касцюм у Беларусі рэалізуецца за 1000-1200 рублёў. Такі дысбаланс цэн стварае дадатковы націск на чорны курс даляра ў бок яго нагага росту, аднак зацікаўленасць "чалнакоў" у павелічэнні колькасці "ходак" можа спрыяць зніжэнню цэн на некаторыя віды тавараў.

### • НЕРУХОМАСЦЬ

Як і ў некаторых іншых гарадах, у Мінску кватэрны рынак стаў практычна поўнасцю валютным. Праўда, узровень цэн тут пакуль значна ніжэйшы, чым у Маскве. Максімальная зафіксаваная цана на чатырохпакаёвую кватэру ў цэнтры Мінска склала 14 тысяч даляраў ЗША.

**Цэны прапанавання на кватэры (залежаць ад многіх фактараў, асноўны з якіх — "геаграфічнае" знаходжанне):**

трох-чатырохпакаёвая (цэнтр) – 8-10 тысяч даляраў; (перыферыя) – 3-4 тысячы;

двухпакаёвая (цэнтр) – да 5 тысяч; (перыферыя) – 2-3 тысячы;

1-пакаёвая (цэнтр) – 2-2,5 тысячы; (перыферыя) – да 1800 даляраў.

Становішча з прыватнымі дамамі таксама цікавае. Сярэдні кошт дома ў Мінску і раёнах прыгарада, вызначаных пад забудову катэджамі, — каля паўмільёна рублёў. Вядома, на кошт аказвае ўплыў якасць будаўніцтва. Аднак існуе механізм, які дае магчымасць набываць дамы за значна меншыя сумы: купля таннай кватэры за СКВ — абмен на дом у Мінску з нейкай даплатай у рублях. Такая аперацыя дазваляе эканоміць 2-2,5 кошту нерухомасці.

### • ВАЛЮТНЫ РЫНАК

Напэўна, упершыню за апошні час рост курсу даляра абумоўлены не толькі "заходнімі", але і "ўсходнімі" фактарамі. Заява кіраўніцтва Расіі аб магчымым увядзенні ў абарот уласнага "рускага" рубля падагнала і без таго высокія тэмпы росту курсавага кошту цвёрдых валют. Сярод беларускіх спажыўцоў СКВ назіралася лёгкая паніка. Пагоршыла становішча і заява Прэзідэнта Ельцына аб свабодных цэнах.

Значны ўціск на рубель справакавалі таксама рашэнне ўкраінскіх улад аб часовым закрыцці аўтамабільнага пагранічнага пераходу пад Ужгарадам, нацыяналізацыя ўрадам Латвіі аддзялення Знешэканомбанка СССР і адпаведны адказ Цэнтра, які азначаў адмаўленне ад усіх абавязацельстваў у адносінах да Латвійскага аддзялення.

### • КУРС ДАЛЯРА НА СНЕЖАНЬ

Мінск — 90-100 (скупка); 100-110 (продаж).

Паводле меркаванняў спецыялістаў, тэмпы росту курсу даляра на канец года выраслі і склалі 10-12 рублёў на тыдзень. Рост курсу даляра спрые прытоку СКВ у Беларусь з Польшчы. Верагодна, што не толькі нашыя турысты, але і польскія грамадзяне будуць увозіць валюту з мэтай таварнай рэалізацыі і наступнага вывазу з рэспублікі рэшткаў тавараў.

## II. Дзень сённяшні

І што дзіўна... амаль нічога не змянілася. Прынамсі, у камерцыйным гандлі. Адзінае, што тавар, які яшчэ заставаўся ў камісіёнках, вымелі канчаткова. "Мыльніцы" (двухкасетнікі тыпу АК-21) крыху ўзраслі ў кошце, але, адначасова, перасталі з'яўляцца ў продажы.

Крыху на "чорны рынак" паўплывала павелічэнне зарплаты, што вырасла амаль у два разы. Толькі вось падаражанне тавараў перамясціла на рынкі не толькі рэчавы асартымент магазінаў, але і прадуктовых. Новыя цэны мы ўжо ўсе ведаем.

Адразу пасля 2 студзеня і раптоўнага павелічэння цэн у 3-5 разоў, рэзка падскочылі цэны на валюту і абяцаюць да красавіка вырасці да 1000 рублёў за даляр (паводле меркаванняў спецыялістаў і бізнесменаў). Улічваючы, што на чорным рынку цэны на 20-30 працэнтаў вышэй за кошт тавараў у СКВ, пералічанага па чорнаму валютнаму курсу, то можна вылічыць, колькі каштуюць на ім тавары павышанага попыту.

Насельніцтва, падзеленае ўзроўнем на тры спажывецкія кàрзіны, абяднела канчаткова. Калі раней 98 працэнтаў жыхароў рэспублікі знаходзіліся на мяжы спажывецкага ліміту, але ўсё ж маглі сабе дазволіць буйныя рэчавыя пакупкі, то сёння гэта магчымасць страчана канчаткова. Усе свае заробкі людзі будуць проста праядаць.

Вываз рэшткаў тавараў з Беларусі прыняў катастрафічныя маштабы. Расія і Украіна, Прыбалтыка і Польшча ачысцілі паліцы беларускіх крам канчаткова. Хоць С.Шушкевіч і абяцаў прыняць (яшчэ да новага году) суадносныя абарончыя меры.

**У артыкуле выкарыстаны матэрыялы МП "Тэн".**



"Тут толькі відэамагнітафона і не хапае!..".

Фота С.Брушко.

## ЦІ ЦЯЖКА ЖЫЦЬ БЕЗ ПІСТАЛЕТА?

*Паводле звестак нашай агентуры*

У школе вёскі Кіраў Шушынскага раёна Азербайджана, відаць, меўся станоўчы адказ на гэта пытанне. Бо тут было знойдзена сховішча са зброяй.

Канфіскаваны 4 гранатамёты, 30 зарадаў для іх, 84 гранаты, 12 мін, 390 метраў бікфордава шнура, мінашукальнік, 9 ракетніц, карабін, 4 паляўнічыя стрэльбы, 14 тысяч баявых патронаў. А таксама 9 радыёстанцый, 2 прыборы начнога бачання. Вядзецца даследаванне.

Калі ўзбройваюцца дарослыя, і дзецям не да гульняў...

ДАЕШ СТРАЙК!

Педагогі Заходняй Украіны былі здзіўлены наступнай падзеяй: забаставалі школьнікі Драгобыча. Галоўнае іх патрабаванне — пераход на пяцідзённы рэжым навучання. Юным забастоўшчыкам было адмоўлена ў сувязі з тым, што гэта, на думку настаўнікаў, дрэнна адаб'ецца на якасці навучання.

ПЫТАННЕ ЧЫТАЧАМ

Бязлітасная рэчаіснасць, суровы наш дарослы свет не шкадус нават дзяцей, адбіваецца іх заўчасным сталеннем. Не заўважаючы, мы ўцягваем малых у нашы праблемы і жорсткія гульні.Нам няма калі нават падумаць пра іх трывогі і клопаты. Занядбалі, забыліся пра іх душы. І караем іх часам таксама па нашых дарослых законах.

У свой час старажытныя рымляне не без падстаў лічылі, што хлопчыкам трэба дараваць хлапечыя свавольствы. Узрост спробы сіл, сталення быў заўсёды часам рызыкоўных падзей, розных "зрываў" і адхіленняў. І сёння рабаўнікамі, нават гвалтаўнікамі часта робяцца непаўналетнія. Але побач з такімі "адпетымі" злодзеямі ў малалетніх "злачынцах" ходзяць і тыя, хто гаворыць дзёрзкасці старэйшым, бадзяжнічае, дрэнна вучыцца ці адхіляецца ад вучобы. Дык што, усіх разам — за краты? Ці правільна гэта? Як быць з педагагічным бракам нашых дзён? Што думаеце на гэты конт вы, нашы чытачы?

**Н.Плыткевіч,**
**аглядальнік па праблемах народнай адукацыі.**

## ДАРАГІЯ НАШЧАДКІ!

*Толькі лічбы*

Дзеці ва ўзросце 3-4 гадоў павінны спажываць у дзень 600 грам малака, у 5-6 гадоў — 550 г, а з 7-гадовага ўзросту — 500 г.

Карысным прадуктам харчавання з'яўляецца тварог, у якім знаходзіцца вялікая колькасць бялку, каштоўнага незамяняльнымі амінакіслотамі ў збалансаваных суадносінах. Дзеці да 7 год павінны з'ядаць у дзень 40 г тварагу, дзеці больш старэйшага ўзросту — 45—50 г.

### Мяса і мясапрадукты

Ад 3 да 4 год — 100 г, ад 5 да 6 год — 120 г, 7—10 год — 140 г, 11—13 год — 175 г, больш за 14 год — 220 г.

### Рыба і рыбныя вырабы

Біялагічная каштоўнасць рыбы вызначаецца галоўным чынам высокім саставам бялкоў, якія лягчэй пераварваюцца і спажываюцца арганізмам, чым бялкі мяса. Большасць рыб утрымлівае невялікую колькасць тлушчу, але ў ім шмат вітамінаў і незамяняльных тлустых кіслотаў. Шматлікія віды марской рыбы маюць добры мінеральны састаў і ўтрымліваюць шмат ёду, якога ў дзіцячых рацыёнах не хапае. Дзеці 3—6 год павінны з'ядаць 30—40 г рыбы, пачынаючы са школьнага ўзросту — 40—60.

Звычайна маленькія дзеці павінны атрымліваць у дзень 1/2 яйца, а школьнікі — 1 яйцо.

Сутачная норма круп для дзяцей дашкольнага ўзросту — 20—25 г, для школьнікаў 30—35 г. Дзеці ва ўзросце 3—6 год павінны атрымліваць 5—7 г алею і 20—25 г сметанковага масла, школьнікі — 10-15 г алею і 25-30 г сметанковага масла і іншых жывёльных тлушчаў.

### Агародніна

3-6 год — 225-250 г, школьнікі — 325-350 г.

### Садавіна

У рацыёне дашкольнікаў павінна быць не менш чым 150—250 г свежых або кансерваваных прадуктаў, школьнікаў — не менш як 250-500 г.

### Цукар і кандытарскія вырабы

Дашкольнікам — 60 г, школьнікам — 70—100 г.

"Книга о вкусной и здоровой пище" (Москва, "Пищевая промышленность", 1979).



*Праблема*

## Што будзе заўтра?

Ці меркавала кіраўніцтва рэспублікі, укладваючы велізарныя сродкі ў будаўніцтва і развіццё санаторыя "Беларусь", што ў Друскінінкаі, што можа ўзнікнуць становішча, калі рэспублікі прыйдзецца з гэтай установай развітацца? Хутчэй за ўсё не.

А сёння гэта пытанне застаецца адкрытым. Створана спецыяльная камісія, будуць весціся перамовы аб лёсе санаторыя паміж дзвюма рэспублікамі. Малыя ж з абласцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, пакуль лечацца і адпачываюць.

Што будзе заўтра?

Здымкі Сяргея Палешука.





# Беларуская мова ў "Инязе" – не замежная

Калі ў Менскім дзяржпедінстытуце замежных моў студэнт дзякуе другому студэнту па-ангельску, а той адказвае па-французску, маўляў, няма за што, дык гэта не здзіўляе. А вось калі ў "касмапалітычнай" ВНУ ты чуеш беларускую гутарку, гэта ўжо wery interesting!

Было б нясціпла звязваць беларускае Адраджэнне ў МДПІЗМ з адзінай толькі з'явай — прыходам у інстытут новага рэктара. Але менавіта пры У.В.Макараве тут створана кафедра беларускай мовы, робяцца спробы выкладаць замежную мову з дапамогай беларускай, выдаецца беларускамоўны інфармацыйны веснік "URBI ET ORBI", праводзяцца "круглыя сталы" з адпаведным парадкам дня.

Апошні з "круглых сталоў" праводзіўся напрыканцы мінулага года. Сярод тых, хто прыйшоў абмеркаваць праблемы беларускай культуры ў вышэйшых навучальных установах,— выкладчыкі, навукоўцы, літаратары, прадстаўнік Міністэрства народнай адукацыі, дырэктар драмтэатра.

А што моладзь, студэнты? Іх наўрад ці прывабяць акадэмічныя пасяджэнні. Але свае ўкладкі ў беларусізацыю інстытуцкага жыцця яны робяць. Творча й артыстычна. Акурат аб гэтым распавядае калядны фотарэпартаж Уладзіміра Панады.

**Андрэй Смірноў.**



Го-го-го, каза! – Дзе рожкі дзела?
Го-го-го, шэра! – На соль прадала!..



Калядная хеўра за некалькі імгненняў да таго, як цыган заб'е бізуном кабылу да паўсмерці, а потым пакліча "дохтура", а той вылечыць кабылу гарэлкай. Кабыла ўскочыць і збяжыць ад цыгана, а той кінецца за "дохтурам".



Самыя вялікія гасцінцы чакалі шчадроўшчыкаў у дэканаце факультэта ангельскай мовы:

Механоша, трымай грошы!
Калі ласы, дый каўбасы!



Трэцякурсніца Юля НАГАЦКАЯ і чацвёртакурсніца Вольга КАЛАЦКАЯ спяваюць:

Жаўнер без жаны,
Жаўнер без дзецяў,
Жаўнер гуляе
Па белым свеце...



І зноў каза паддобрывае гаспадароў:

Дзе каза – нагой,
Там жыта капой!
Дзе каза – хвастом,
Там жыта кустом! Го!

# манал**о**г

— СЛУХАЙ, табе што, болей няма справы, як перажываць за мову? Ну добра, добра, разумею, размова ідзе не пра якую там, а пра мову родную, матчыну, крынічную, адну са старажытных у свеце з цікавейшай гісторыяй і гэтак далей. Але, даруй! Прызнайся проста і шчыра, яна ёсць сёння? Ну, што хаваеш позірк? Хочаш сказаць: сорамна? Хочаш біць сябе ў грудзі: "Не вінавата я, не вінавата! Гэта ўсё яны, папярэднікі... Гэта яны выракліся мовы роднай. А я... Што я? Маю толькі тое, што мне засталося — Бог суддзя і сведка". Бач, і Бога ўспомніла. Але ці не ты зусім нядаўна ганарылася сваімі атэістычнымі поглядамі, ці не ты з сяброўкамі ледзьве стрымлівала смяшкі перад алтаром у царкве, на Усяночную, га...

— Стоп! Да справы не адносіцца. Хто дазволіў варушыць маё мінулае, шаноўная спадарыня? Сёння я — паэтка, беларуска па крыві і па перакананнях і голас мой...

— Ну што ты запынілася? Хацела мовіць нешта патрыятычнае і пасаромелася? Так. Ні ты, ні я не маем смеласці назваць сябе патрыёткамі сваёй Беларусі і не таму, што слова гэтае "патрыятызм" неяк выпала з нашага ўжытку. Проста не зусім выразны для нас яго сэнс, незразумелы і таму недасягальны, як тая знічка ў бяздонным небе, ведаеш пра існаванне якой, а дасягнуць не можаш. Давай паразважаем, ці не з-за таго гэта, што слова Радзіма ўспрымаецца намі, як нешта абавязкова неабмежавана велізарнае, слова Беларусь часцей замяняецца словазлучэннем "родны край", а Бацькаўшчына — на болей чым сціплы "родны кут".

— Ну, ну! Байкі бай, ды галаву не губляй, так нас вучылі ў школе. Глядзіш, знойдзецца чыноўнік ад народнай адукацыі і быць вам бітымі за недвухсэнсавыя намёкі. Хаця ў глыбіні душы я поўнасцю падзяляю вашы думкі. Залішне спрошчана нам выкладалася *роднае.* Т«ь"і і тут ёсць а»раўдааáе — я"асць áавучаááя заўсёды »а"утуе ад "«ь"асці »рад›етаў і ўсё-та"і áа ця»ерашáі р«зу› я б выбра‹а "‹ас з »аг‹ыб‹еáы› вывучэááе› р«дáых ›«вы, ‹ітаратуры, гіст«рыі.

— Выбрала б, кажаш? Паглыблена з пляча сякерай не адсячэш і за год-два не ахопіш. А ў першым класе не ты выбіраеш, а бацькі. Яны, балазе, "напакуталіся" ў свой час з-за "белорусского акцента" і зараз асцярожныя. Гэта сваю ўласную галаву гатовы аддаць яны хоць на адсячэнне, а дзіця, прабачце, няхай будзе, як усе. Не да твару яму на Белай Русі белай варонай пачуваццa. А раптам Расія зноў стане Вялікай Руссю? Не, расейскія школы і ўстановы на Беларусі — не капрыз нечы, а погляд, як заўсёды, у дзень заўтрашні.

Ну, безумоўна, крыўдна. Крыўдна, што, як заўсёды, не верым мы гэтаксама ў светлы дзень сваёй Бацькаўшчыны. Ды што рабіць? Для веры мала літары Закона аб тым, што мова прызнаецца дзяржаўнаю. Патрэбны школы, беларускія дзяржаўныя школы па ўсёй Беларусі. А дзеля гэтага, як вядома, яшчэ і сродкі, сродкі, сродкі. Тысячы? Мільёны. Э, не, браткі родныя, мы яшчэ ад Чарнобыля не ачухаліся. Нам выжыць. А жывуць няхай нашчадкі. Яны стануць на ногі і адродзяць, адновяць мову нашую і зноўку пачнецца ў яе новая рыска адліку, новая эра?

Тамара МАЗУР.




СА СТАРЫМ НОВЫМ ГОРАМ, БЕЛАРУСКАЯ МОВА!



*ЛЕГЕНДЫ*

# Адкуль пайшлі беларусы

Калісь яшчэ свет толькі зачынаўся, дык нічога нідзе не было. Усюды стаяла мёртвая вада, а пасярод вады тырчэў нібы камень, нібы што. Адзін раз пярун як разыграўся і давай пыляць стрэламі ў белы камень. Ад яго стрэлаў выскачылі тры яскаркі: белая, жоўтая і чырвоная. Упалі тры яскаркі на ваду; з гэтага дня ўся вада скаламуцілася, і свет памуціўся, як хмары. Але па некаторым часе, як усё высветлілася, дык і адзначылася — дзе вада, дзе зямля. А яшчэ па некаторым часе завялося і ўсякае жыццё і ў вадзе, і на зямлі. І лясы, і травы, і звяры, і рыба, а пасля і чалавек завёўся: ці ён прыйшоў адкуль, ці вырас тутака.

Па некаторым часе гэты жыхар пачаў заводзіць свае чалавечыя парадкі. Ці доўга ён так жыў, ці мала, але меў ён ужо сваю сялібу, меў многа жонак, а яшчэ больш дзяцей. Было яму прозвішча Бай. А як прыйшла яго гадзіна смерці, дык ён склікаў сваіх сыноў і падзяліў усю сваю маёмасць. Толькі аднаго сына запамятаваў. Той у гэты час быў на палешні*, і з ім былі любімыя бацькавы сабакі Стаўры і Гаўры. Прозвішча гэтае сыну было Белаполь.

Неўзабаве после смерці бацькі вярнуўся Белаполь з палешні. А браты яму кажуць:

— Вось бацька падзяліў нам усю сваю маёмасць, а табе ён завяшчаў сваіх сабак ды яшчэ наказаў, каб ты іх пусціў па волі: аднаго — у правы бок, а другога — у левы; колькі яны зямлі аббягуць у дзень, дык гэтая ўся зямля твая будзе.

Вось пайшоў Белаполь і злавіў дзвюх птушак, адна з якіх прыляцела з паўднёвага мора, другая — з заходняга. Пусціў адну птушку на поўдзень, ды і кажыць аднэй сабацы:

— Бяры!

Пусціў другую на захад і кажа другой:

— Хапай!

Як ляцелі тыя птушкі: адна ў адзін бок, другая ў другі... Як пабеглі сабакі за птушкамі, дык ажно зямля закружылася... Як пайшлі тыя сабакі, дык і да гэтага часу не вярнуліся, а па іх слядах дзве рэчкі працягнуліся, у адзін бок прайшла Дзвіна, а ў другі бок — Дняпро.

Вось у гэтых абшарах Белаполь і пачаў сяліцца ды заводзіць свае лады...

У гэтага Белаполя ад розных жонак яго развяліся розныя племенні пад прозвішчам Беларусы. Яны і да гэтага часу там ходзяць, зямельку скародзяць ды жыта сеюць.

* Палешня — паляванне.



# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

## Крыжаванка-пераклад

Добрую справу па вывучэнню беларускай мовы пачала газета "Наша слова". У трыццаць пятым нумары яе змешчаны крыжаванка-пераклад. Аўтар Людміла Шніп. Гэта звычайная крыжаванка. Але тут патрэбна замест расейскіх словаў у пытальнай частцы крыжаванкі ўнесці ў клеткі беларускія словы.

Я палічыў бы гэта вынаходствам. Тут кожны можа, гуляючы ў крыжаванку, вывучаць беларускую мову.

Няблага было б, каб усе газеты пераняли гэты метад вывучэння роднае мовы.

Мне могуць запярэчыць: маўляў, бракуе слоўнікаў. Але гэта таксама ў руках у рэдакцыі газеты. Чаму б не пачаць друкаванне, хаця б і скарочанага расейска-беларускага слоўніка кішэннага памеру па прынцыпу: кнігу — сваімі рукамі.

Усё гэта вельмі спрыяла б вывучэнню беларускай мовы.

Л.Жалезнякоў, г.Гомель.

## Людзі! Што з вамі?

Аднойчы мне давялося быць сведкай цікавай размовы. Незнаёмая жанчына хвалілася сваёй сяброўцы: "Нядаўна адпачывала ў Прыбалтыцы. Вось дзе культура! А якая чысціня ў гарадах! Там усе размаўляюць на нацыянальнай мове. А ў нас... Што казаць, усё і так бачна".

Непрыемна, крыўдна чуць такія словы. Нават сорам ахапіў сэрца. Міжволі думаеш: няўжо мы горшыя за іншых?! Хто ж вінаваты? Менавіта мы з вамі. І не трэба ківаць, як кажуць, на Івана або Пятра, спасылацца на нейкія акалічнасці.

Яшчэ сто год таму назад Францішак Багушэвіч сказаў, што "наша мова такая ж людская...". Цяпер гэтыя словы гучаць актуальна... У даўнія часы беларуская мова была ў пашане. На ёй размаўлялі адукаваныя людзі і дзяржаўныя дзеячы Белай Русі. Носьбітамі высокай культуры былі Францыск Скарына, Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі і іншыя.

Нямала знакамітасцей жыве і зараз у Беларусі. Яны праслаўляюць родны край і мову.

Алесь Адамовіч неяк заўважыў, што "да беларускай мовы гараджанін выходзіць ужо праз адукаванасць". Дай Бог, каб дальнабачныя словы спраўдзіліся.

Агульнавядома, што культура і адукаванасць — узаемазвязаны паміж сабой. Мэта кожнага чалавека — павышаць светапогляд, "шліфаваць" усё лепшае, ад прыроды дадзенае.

У першую чаргу, неабходна пазбавіцца непрывабных заган у грамадстве. Гэта — брыдкаслоўе, разбэшчанасць, п'янства, злосць.

Так, сучаснае жыццё нялёгкае. Кожны дзень — бясконцыя чэргі, даражнеча, амаль пустыя паліцы ў магазінах. Такое становішча, вядома, яшчэ нікога не прывяло ў захапленне. Але ж чалавек ад прыроды аптыміст і гумарыст. Ён заўсёды спадзяецца, што ўсё кепскае хутка забываецца і мінае.

Давайце ўспомнім нашых родных бабуль і матуль. Менавіта яны, гэтыя сціплыя жанчынкі, нібы чысцюткая крынічка, адкуль так неабходна зараз набрацца душэўнай раўнавагі і мудрасці.

Паразважаем: ці лёгка ім было перанесці вайну і разбурэнні, голад і холад? Але ж людзі жылі, рупна працавалі, падымалі з папялішчаў гарады і вёскі. Весяліліся, нараджалі дзетак. А як спявалі народныя песні! Заслухаешся, замілуешся... І выстаялі, не зламаліся перад цяжкімі выпрабаваннямі.

Нізкі зямны паклон вам, працаўніцы! Дзякуй вам за мужнасць, адданасць роднай старонцы, за спагадлівасць ці зычлівасць.

...Людзі, што з намі здарылася? Спыніцеся, азірніцеся... Чаму такі дэфіцыт цеплыні, павагі адзін да аднаго? Чаму паявіліся маці-зязюлі, а ў дамах-інтэрнатах знайшлі свой апошні прытулак бацькі пры жывых дзецях. Рэаліі сучаснасці, ці душэўная чэрствасць?

Давайце ж часцей усміхацца, дарыць адзін аднаму толькі радасць, шчасце і прыемны настрой. Праявім далікатнасць, спагаду і цярплівасць. Паверце: палітыкі прыходзяць і адыходзяць. А чалавек — застаецца. Галоўнае — не апусціцца ў багну, быць вышэй за любыя абставіны.

P.S. Ганарар пералічыце, калі ласка, у фонд "Чырвонай змены".

Ганна Атрошчанка, г.Гомель.

*Знарок не прыдумаеш*

## Не знайшлося мужнасці...

Нават у тыя цяжкія дні, калі разгарэліся спрэчкі аб наданні беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай, ваша газета падтрымала пазіцыю тагачаснага лідэра беларускіх камуністаў Я.Сакалова, які навязваў увесці ў закон статус двухмоўя. І вось вы прыстасаваліся да гэтай пазіцыі і сталі ў абарону двухмоўя. Усе допісы ў вашу газету, якія заклікалі абараняць родную мову, газета не друкавала, а калі і друкавала, то старалася прыгладзіць, а на самым відным месцы знаходзілі месца бязглуздыя выказванні аб нашай мове накшталт допісаў Шаржановіча і да яго падобных.

Не даспадобы былі рэдакцыі і допісы з крытыкай "кіруючай і накіроўваючай", таталітарнага рэжыму, які завёў краіну ў багну эканамічнага крызісу.

Разумею вас, спадары: ад бальшавіцкага выхавання цяжка адрачыся і так хутка пераўвасобіцца.

Чаму я так катэгарычна пішу? На сабе адчуў. Мае допісы, якія я накіроўваў у вашу газету ў абарону роднай мовы, лічылі слушнымі, але месца на газетнай плошчы ім не знаходзілася — усё ішло ў сметнікавую карзіну. І гэта не толькі мае. Вось і цяпер, калі ваша газета, як вы пішаце, стала незалежнай, у вас не знайшлося смеласці ў маім допісе "Хто ж кіруе намі?" надрукаваць радкі, дзе адзначаліся правалы ўсіх прынятых праграм партыі і ўрада, як Харчовая праграма, праграма асваення Нечарназёмнай зоны РСФСР, зацягнутае будаўніцтва БАМа і іншыя, а таксама невыкананне ніводнай савецкай пяцігодкі.

Ды і наогул допіс прыгладжаны і ў ім многа ча незразумелага для чытача.

Не знайшло месца на старонках газеты асуджэнне путчыстаў.

Трэба дадаць і тое, што рэдакцыя не вельмі дбае аб цнатлівасці аўтараў допісаў. Няўжо вам цяжка было падпісаць допіс, як і побач размешчаныя імя і прозвішча, а не нейкае "М". Што гэта, як не зняважа.

Мікалай Наско,
пенсіянер,
ветэран працы.

**Ад рэдакцыі:** У нас зноў "не знайшлося мужнасці" надрукаваць цалкам ліст паважанага Мікалая Іванавіча Наско, бо павінны пакінуць месца для прамых дырэктыўных указанняў Я.Сакалова. Аднак, "прыгладзіўшы" крыху расцягнутыя мясціны і пазбавіўшыся таўталогіі, пастараліся захаваць змест і стыль ліста.

*Здзіўленне*

## БЕЛАРУСЫ ЦІ "БУЛЬБАШЫ"?

Беларусь зачароўвае прыгажосцю сваёй прыроды. На гэтай зямлі нараджаюцца зычлівыя людзі, якіх суседзі празвалі "бульбашамі".

Так, бульба зрабілася нашым другім хлебам. Але праз нейкі час нас, мусіць, не толькі беларусамі не будуць зваць, але нават і "бульбашамі"...

Мы на чулых людзей багаты,
Злосці б трохі да чуласьці той!

Канешне, я ў першую чаргу душа, чалавек і толькі потым — грамадзянін. Але ці можна губляць карані? Колькі ні палівай дрэва, калі ўжо страцілі корань, усё гэта будзе марная праца.

Нагадваюцца словы Ніла Гілевіча: "...паэт пачынаецца з пачуцця бацькаўшчыны, радзімы,з глыбокага ўсведамлення сваёй прыналежнасці да народа, неад'емнай часцінкай якога з'яўляемся, кроўнай прывязанасці да зямлі, на якой нарадзіўся". А ці нельга гэтак сказаць пра кожнага ўкраінца, беларуса, армяніна, грузіна, узбека?..

Вось скончыўся тэрмін маёй службы ў войску. Шмат рознага ў нас адбылося за гэты час — нават спроба дзяржаўнага перавароту, — аднак адно пытанне мяне цікавіць увесь час.

Чаму за ўвесь тэрмін (за два гады мы, мабыць, пуд солі разам з'елі) я размаўляў на беларускай мове толькі з "хахлом"? Ён мяне разумеў, я разумеў яго мову. Ён чытаў мае кнігі, я — яго, мы нават разам напісалі адну аповесць. І ўсё гэтае пры тым, што палова роты ў нас былі беларусы, карэнныя менчукі?

У школьнай праграме мала часу адводзіцца на разгляд творчасці Максіма Багдановіча. "Яго нельга назваць сапраўдным беларускім паэтам, бо ён амаль і не чуў жывой беларускай гаворкі"...

А ці не духоўны подзвіг тое, што ён захаваў мову, нават пісаў на ёй вершы, ведаючы яе толькі па кнігах?

Ці не дзіва, што чалавек, які піша ў графе нацыянальнасць — "белорус", кажа, што беларуская мова патрэбна толькі пісьменнікам і больш нікому. Памятаю, яшчэ да маёй службы ў войску, у "Знамени юности" надрукавалі ліст, дзе нейкі хлопец кажа: "Я ненавижу эту свою "родную мову", "меня просто бесит, когда в моей речи попадаются белорусские слова"!

Як ні горка мне гэта казаць, але ніхто з іншых нацыянальнасцяў, акрамя "бульбашоў", не пытаўся ў мяне, навошта мне беларуская мова...

Ці неператворыцца наша нацыя ў насельніцтва пэўнай тэрыторыі, якая чамусьці носіць назву Беларусь, ці нават здзейсніцца мара сп.Жырыноўскага і мы зноў будзем губерніяй Расійскай імперыі?..

Я не прапаную кожнага жыхара рэспублікі прымусіць хадзіць на беларускія прадстаўленні, слухаць беларускія спевы, выпісваць беларускамоўныя газеты і часопісы, чытаць кнігі... Такім чынам мову не "рэанімуеш".

Дарэчы, аб часопісах і газетах.

Адразу пасля звальнннення з войска я падаў дакумэнты на падрыхтоўчае аддзяленне пэдінстытуту імя Горкага, што ў Менску.

Пад час, калі мы праходзілі сумоўе, я стаў сведкам цікавай размовы паміж абітурыентам і камісіяй. У будучай настаўніцы беларускай мовы і літаратуры спыталі, якія беларускія выданні яна ведае.

— "Крокодил".

— Але ж гэта не беларускі... А газэту?

— ...

— Ну, што нашы літаратары выдаюць...

— "Литературная газета"...

Шчыра кажучы, я здзівіўся.

Канешне, асабістае права кожнага, на якой мове размаўляць, якую літаратуру чытаць. Але мне не даспадобы, каб беларуская мова стала належаць толькі лінгвістам.

У войску мяне, бывала, пыталіся, чаму я падпісваю канвэрты не па-савецку. Як можна зразумець, трэ было падпісваць па-расейску.

Тады я спытаў, чаму калі я падпісваю канверт сябрам з ЗША альбо Канады не па-расейску, нікога чамусьці не бярэ здзіўленне...

Паўлюк Быкоўскі, Менск.

*У суполках ТБМ*

## Мо падацца беларусам у Тэль-Авіў?

У Бабруйску ёсць беларускі гістарычна-культурны клуб "Гоман", які зарэгістраваны ў сакавіку 1990 года і з'яўляецца калектыўнай сяброўнай Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Ёсць у "Гомана" свой статут, сцягі і эмблема. Галоўнай задачай яе сябры лічаць клопат пра выхаванне гарманічна развітой, нацыянальна свядомай асобы — Грамадзяніна Беларусі. Нельга без хвалявання чытаць заклік са Статута "Гомана": "...спыніць ганебны працэс нацыянальнай асіміляцыі...". Бабруйчане, якія ўваходзяць у суполку, выдаюць аднайменную газету. Ужо пабачыла свет 4 нумары. Кожны — колькасцю ў 999 паасобнікаў.

Калі надараюцца святы, то "гоманаўцы" імкнуцца адзначаць іх разам.

Бабруйск не такі ўжо і маленькі гарадок, але чаму сярод актыўных сяброў "Гомана" усяго толькі 15 чалавек? Няўжо болей няма на радзіме Барыса Мікуліча і Платона Галавача свядомых беларусаў?

На гэтыя пытанні і спрабуе адказаць скарбнік клуба "Гоман" Міхась Кавалеўскі:

— Канешне ж, свядомых людзей у Бабруйску шмат болей... Але ёсць у нас адна бяда. Ніяк не можам знайсці памяшканне для "Гомана". Звярталіся ў гарвыканком — і самі, і праз Рэспубліканскую Раду ТБМ імя Ф.Скарыны. Ды толькі і зараз справа з месца не зварухнулася.

Да слоў М.Кавалеўскага патрэбна дадаць, што ў Бабруйску працуе яўрэйскі клуб, якому ёсць дзе збірацца. А вось бабруйскім беларусам, відаць, давядзецца падацца ў Тэль-Авіў?..

Алесь Карлюкевіч.

*Беларуская мова і літаратура ў школе*

*Анонс*

Сваю вокладку часопіс "Беларуская мова і літаратура ў школе" абнаўляе штогод. І ў новым годзе нашых сталых чытачоў чакае невялічкі сюрпрыз — часопіс пачынае выходзіць пад падвоенай назвай: "Роднае слова" ("Беларуская мова і літаратура ў школе"), назва на вокладцы — "Роднае слова".

Такое рашэнне было прынята на восеньскай рэдкалегіі выдання ў сувязі з тым, што ранейшая назва не ў поўнай меры адлюстроўвала накірунак часопіса, яго "душы" стала цесна ў строгіх рамках адназначнай назвы. У рэдакцыйным артыкуле, які напісаны з гэтай нагоды, зазначаецца, што новая назва азначае не адступленне ад клопатаў настаўнікаў-беларусістаў, а паглыбленне зробленага, спробу прыцягнуць да справы адраджэння нацыянальнай школы не толькі педагогаў, але і іншыя слаі беларускай інтэлігенцыі.

У першым нумары часопіса змешчаны Закон Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", працягваецца размова пра ўдасканаленне беларускага правапісу.

Сярод артыкулаў, якія будуць цікавымі шырокаму колу чытачоў, варта адзначыць метадычную распрацоўку "Дык трэба грунт мець пад нагамі, каб не бадзяцца батракамі" — пра далучэнне вучняў да агульначалавечых каштоўнасцей пры вывучэнні паэмы Якуба Коласа "Новая зямля". Пераклікаецца з гэтым артыкулам і іншы — "Урокі літаратуры і народны этыкет".

У часопісе зроблена спроба данесці на школьныя ўрокі адметную, няпростую для ўспрымання і вывучэння паэзію Алеся Разанава: падаюцца артыкулы аб яго творчасці, падрыхтаваныя настаўнікам, навукоўцам, а таксама новыя вершаказы Разанава, на вокладцы змешчаны фотаздымак паэта.

Да 100-годдзя з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча, аўтара першай беларускай граматыкі, часопіс змяшчае нарыс пра яго, падае асноўныя даты з жыцця вучонага і пісьменніка.

Як і летась, часопіс працягвае весці рубрыку "І песню родную люблю я..." — на гэты раз друкуюцца тэкст і ноты песні "Беларусь мая!", якая вядомая яшчэ пад назвай "Аксамітны летні вечар".

Падрыхтаваў Іван Ждановіч,
супрацоўнік рэдакцыі часопіса.

Школьны драмгурток

# Леў Усцінаў

# ПРАМЯНІСТЫ КАМЕНЬ

## Прыгодніцкая казка ў 3-х актах

### Дзеючыя асобы:

Прафесар Графітаў.
Косця.
Віця.
Пагранічнік.
Дэрсу Узала.
Рыжы.
Чорны.
Заяц.
Дзяцел.
Матрос-кулямётчык.

Дзея адбываецца ў нашы дні.

## Акт першы

### Карціна першая

*Сярод магутных дрэў і густога кустоўя на маленькай палянцы стаіць невялікая палатка. Да галінкі бліжэйшага дрэва прывязаны кавалак рэйкі. Ля ўваходу ў палатку сядзіць даўганосы Дзяцел. Ціішыня. Раптам Дзяцел насцярожваецца, падбягае да кавалка жалеза і б'е ў яго сваёю доўгаю дзюбаю. Чуецца звон. Дзяцел уцякае. З палаткі выходзіць прафесар Мікалай Васільевіч Графітаў. Выгляд у яго заспаны, барада ўскудлачана, у руках — стрэльба.*

**Прафесар** *(бурчыць).* Ну, што ты грыміш, Дзяцел? Ізноў, пэўна, мышаняці напалохаўся? *(Крычыць).* Каго там д'ябал да маёй палаткі нясе?

*З кустоў высоўваюцца галовы Косці і Віці. У Віці на плячы стрэльба.*

**Віця.** Гэта мы.

**Косця.** Добры дзень, Мікалай Васільевіч.

*Зверху на галовы хлопцам рушыць лавіна шышак.*

**Віця.** Як кажуць, усе шышкі на маю бедную галаву.

**Косця.** Як быццам, і ветру няма сёння...

**Прафесар.** Гэта мой новы сябра — Дзяцел. За тое, што я дзялюся з ім сваёй кашай, ён вось ужо два дні не дае мне спаць. Ледзьве заўважыць якую небяспеку — адразу дзюбай па жалязяцы. А потым шышкі на ворага скідвае.

**Віця.** А... А рэйку ён не кідае?

**Прафесар.** Пакуль не. Стой, Дзяцел.

*Зноў лавіна шышак.*

Зараз жа спыніся!

*Лавіна шышак спыняецца.*

Гэта мае сябры і памагатыя. Юныя геолагі-разведчыкі Косця і Віця.

*Віця яшчэ раз памацаў галаву, недаверліва зірнуў уверх і на ўсялякі выпадак адышоў убок.*

Будзем лічыць, што сутыкненне закончылася прымірэннем бакоў. Ну, дакладвайце, якія поспехі...

**Віця.** У час наступлення на тайгу намі захоплена ў палон дзесяць узораў розных каменных парод і два сарты гліны.

**Прафесар.** Малайцы! Героі! *(да Косці).* Ты чаго насупіўся?

**Віця.** На мяне злуе *(да Косці).* А чаго злуеш? Калі цябе не прынялі, дык, значыць, і мой талент прападаць павінен?

**Прафесар.** Чакайце! Вы што, пасварыліся?

*Хлопцы маўчаць.*

З-за чаго?

**Віця.** Я ў драмгурток паступіў.

**Косця** *(з насмешкаю).* Артыстам стаць збіраецца.

**Віця.** А ў мяне мо і праўда талент! *(Прафесару).* Хочаце, я вам пакажу, як трэба калаціцца са страху?

**Прафесар** *(разгублена).* Пакажы.

**Віця** *(спакойна)* Калі ласка...

*У Віці пачынаюць дробна калаціцца рукі і галава.*

Нармальна?

**Прафесар.** Выдатна. Ведаеш, Косця, не злуй. Можа, у яго сапраўды здольнасці ёсць. Галоўнае ў жыцці — не празяваць свой талент... Развязвайце хутчэй мех і выкідвайце адтуль каменне. А я тым часам памыюся.

*Прафесар пайшоў у палатку. Косця дастаў з руказака і расклаў на зямлі каменне.*

**Віця.** Падсілкавацца б... *(уздыхнуў).* Так хочацца.

**Косця.** Мы ж толькі што з'елі вялізны кавалак мяса з хлебам.

**Віця.** Сказаў таксама... Толькі што... Ды ўжо хвілін дваццаць прайшло — не меней.

**Косця.** Няўжо зноў прагаладаўся?

**Віця.** З навуковага пункту гледжання, чалавек, які добра паеў...

**Косця.** Бедная твая мама.

**Віця.** Чаму гэта?

**Косця.** Нябось цэлы дзень ля пліты стаіць — смажыць для цябе ды парыць.

**Віця.** Гэта точна. Яна мяне і да ўрача вадзіла — даведацца, чаму я заўсёды такі галодны.

**Косця.** Ну, а ўрач?

**Віця.** А што ўрач... Нармальна, кажа... Расце дзіця, развіваецца — і ўсё... Так што, кажа, усё лёгка растлумачыць...

**Косця** *(з ironiяй).* З навуковага пункту погляду *(строга).* Ты вось што, дзіця, развівайся колькі хочаш, толькі ў Мікалая Васільевіча... *(ківае пальцам).* Глядзі... Яму запасы прадуктаў на тыдзень адзін раз узнаўляюць.

**Віця.** Не вазьму. Што, я не разумею хіба? Толькі я таксама не вінаваты, што расту. Не заставацца ж на ўсё жыццё маленькім.

*Вяртаецца прафесар.*

**Прафесар.** Хлопцы, лопаць хочаце?

**Косця.** Дзякуем, толькі што паелі... *(пагрозна зірнуў на Віцю).*

**Віця** *(уздыхнуў).* Сытыя па горла..

**Прафесар.** Сур'ёзна? Як хочаце... *(пачынае хутка перабіраць узоры).* Палявы шпат... граніт... мергель... пясчанік... вапняк... Гэта было... было... таксама было... *(Увага яго затрымліваецца на адным камені).* Дзе знайшлі?

**Віця.** Гэты? Ля вялікай сасны... Ведаеце? Там Бурлівы ручэй налева паварочвае...

**Прафесар.** Адзін ці яшчэ былі?

**Косця.** Былі яшчэ.

**Прафесар.** Шмат?

**Косця.** Не так, каб шмат, але парадкам.

*Прафесар вымае з кішэні трубку, задуменна круціць яе ў руках.*

**Віця.** Я вось даўно хачу ў вас запытацца, Мікалай Васільевіч.

**Прафесар.** Пытайся.

**Віця.** Вы ж не паліце?

**Прафесар.** Гадоў дзесяць як кінуў. Хачу пажыць даўжэй. Дажыць да цудоўных дзён, калі збудуцца самыя смелыя мары чалавека.

**Віця** *(паціскае плячыма).* Дзіўна...

**Прафесар.** Што дзіўна?

**Віця.** Паліць кінулі, а трубку не кідаеце.

**Прафесар.** Ці мала якія дзівосы бываюць на белым свеце *(працягвае ўважліва разглядваць камень).* Цікавейшы экземпляр! Узнікае своеасаблівая гіпотэза *(разглядвае ўзор пад лупай, ідзе ў палатку).*

**Косця.** Што ўзнікае?

**Віця** *(рассеяна).* Гіпотэза.

**Косця** *(ціха).* Што, што?

**Віця.** Гіпотэза, здагадка. Разумееш,прафесар убачыў наш камень, і адразу ў яго галаве думка ўзнікла.

**Косця** *(недаверліва).* Ад каменя?

**Віця.** А як жа! Можа, для яго гэты камень самы важны. Ну важней за ўсё на свеце.

*З палаткі выходзіць прафесар. У руцэ той самы камень.*

**Прафесар** *(радасна).* Пра многае гаворыць гэты каменьчык! Хто з вас знайшоў яго?

*Хлопцы маўчаць.*

Давядзецца за такую знаходку падарыць маю запасную біклагу. Цудоўная біклага! У любую спякоту на працягу сутак вада захоўвае ў ёй прахалоду і не замярзае ў самы страшны мароз.

**Віця** *(летуценна).* У самы страшны мароз?

**Прафесар.** У самы страшны.

**Віця.** І ў любую спякоту?

**Прафесар.** Абсалютна правільна.

**Віця** *(уздыхнуў).* Не, мы знайшлі яго абодва, разам.

**Прафесар.** Разам? Абодва адразу ўбачылі, абодва нагнуліся, дружна працягнулі рукі і ўдвух паклалі ў мех? Штосьці не верыцца.

**Віця.** Абодва адразу. Мы ад самага пачатку так дамовіліся. Паколькі разам у тайгу ходзім, разам вам дапамагаем, значыць усё разам.

**Прафесар.** Не напалам, а разам? Вельмі добра. Малайцы, хлопцы. Толькі дзве біклагі я вам зараз не аддам. Сам тады без вады застануся.

**Віця** *(сумна).* Што зробіш. Такія мы ўжо няшчасныя, відаць...

**Прафесар.** Не гаруйце, вярнуся ў Маскву, зараз жа вышлю вам пасылкай дзве біклагі. А гэты камень я загарну ў вату і пакладу асобна *(ідзе ў палатку).*

**Косця.** Твая ж знаходка. Трэба было сказаць.

**Віця.** Дамовіліся ж — усё на дваіх?

**Косця.** Дамовіліся... Кумекаць трэба. Вось і была б у нас на дваіх фляга... Такой ні ў кога ва ўсім пасёлку няма.

**Віця** *(вінавата).* Не падумаў.

**Косця.** Не падумаў... І чаму цябе толькі ў школе вучаць? Выдатнік называецца. Такая біклага!

**Віця.** Сказаў жа — прышле.

**Косця.** Калі тое будзе... А то сёння ў пасёлак вярнуліся б з біклагаю*(летуценна)*.Эх, я б мог адразу дзесяць такіх біклаг выпіць.

**Віця.** Халодных ці гарачых?

**Косця.** Любых.

**Віця.** Што ж тут добрага. Лопнуў бы ад вады — і ўсё.

**Косця** *(дражніцца).* Разам... дамовіліся... А чаго ж ты ў драмгурток адзін пайшоў? Гэта, ведаеш, як называецца? Здрада сябру. Нож у спіну гэта называецца.

**Віця.** Драмгурток таксама карысная справа. Кіраўнік кажа, што мы навучымся...

**Косця.** Галавой трэсці? Дык вунь у цёткі Машы казёл ямчэй за тваю галаву трасе.

**Віця.** Памятаеш, калі я вырашыў на дзесяць кіламетраў наўкол кожную сцяжынку вывучыць? Ты таксама з мяне смяяўся.

**Косця.** І зараз смяюся. Усю тайгу на памяць не вызубрыш. Гэта не матэматыка. Яна вунь якая: на тысячы кіламетраў! А геолаг сёння тут , заўтра там, як матрос. Галоўнае, умець па карце арыентавацца. Ёсць у руках карта — хадзі куды хочаш.

**Віця.** А калі няма карты?

**Косця.** Тады і не совайся.

*Выходзіць прафесар.*

**Прафесар** *(радасна).* Ну што ж, дзякую, хлопцы, дзякую! Але мяне здзіўляе іншае. Вы прыйшлі, калі я спаў. Гэта сярод белага дня! І хоць вам добра вядома, што я не лайдак і не соня, вас яшчэ не хапіла за горла цікаўнасць і не запытала сваім занепакоеным галаском:"Дазвольце! А якім чынам гэты чалавек *(паказвае пальцам на сябе)* правёў надоечы бяссонную ноч? Чым ён займаўся?" А шкада! Майце на ўвазе, таварышы будучыя геолагі, цікаўнасць — аснова нашай прафесіі.

**Віця.** Дазвольце выправіць памылку?

**Прафесар** *(велікадушна).* Выпраўляйце.

**Віця** *(устае і пытаецца тонам экзаменатара).* Дык чаму ж вы не спалі, прафесар?

**Прафесар** *(смяецца).* Ладна, сядайце. Было не было, раскажу, што я раблю па начах. Толькі, цур, паміж намі. Дамовіліся?

*Хлопцы ківаюць галовамі.*

Маўчанне?

**Віця.** Маўчанне.

**Косця.** Маўчанне.

**Пераклад Л. БЕЛАЙ.**

(Працяг — у наступным выпуску "Роднага слова").

Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры



*Літаратурны каляндар*

# "Зусім асобны, арыгінальны арганізм"

*1 студзеня — дзень нараджэння выдатнага філолага-славіста, заснавальніка беларускага мовазнаўства, першага акадэміка-беларуса Яўхіма Фёдаравіча Карскага. Вядома, што Карскі, акрамя аўтара глыбокай і плённай распрацоўкі шматлікіх праблем этнаграфіі, фалькларыстыкі, літаратуразнаўства Беларусі, з'яўляецца і заснавальнікам такіх спецыяльных гістарычных дысцыплін, як беларуская лексікалогія і гістарычная дыялекталогія.*

Вялікую ўвагу акадэмік Карскі аддаваў вывучэнню гісторыі беларускай мовы. Многія заключэнні, вывады Карскага наконт развіцця беларускай мовы, яе ўзаемадзеяння з іншымі славянскімі мовамі і цяпер вызначаюцца сваёй грунтоўнасцю і актуальнасцю.

Погляды акадэміка Расійскай акадэміі навук на ролю і становішча беларускай мовы з цягам часу мяняліся. Ужо ў пачатку XX стагоддзя Яўхім Карскі на падставе звестак этнаграфічных экспедыцый па Беларусі лічыў мову мясцовага насельніцтва "адзіным, што найбольш упарта трымаецца ў беларусаў". Прычым цікава адзначыць, што ў дакастрычніцкія гады акадэмік Карскі ў сваіх шматлікіх навуковых публікацыях практычна ніколі не ўжываў тэрміна "белорусский язык". Часцей за ўсё вучоны-філолаг карыстаўся такімі паняццямі, як "белорусское наречие" і "белорусская речь".

Адным з рэдкіх выключэнняў у гэтым сэнсе з'яўляецца галоўная праца ўсяго жыцця акадэміка — трохтомная капітальная манаграфія "Белорусы", прызнаная потым амаль усімі даследчыкамі "энцыклапедыяй беларусазнаўства". Першы том гэтай працы выйшаў у свет у 1903 годзе ў Варшаве і меў назву "Белорусы. Введение в изучение языка и народной словесности".

Зразумела, што Карскі ў пачатку XX стагоддзя фактычна не выкарыстоўваў паняцця "белорусский язык" у немалой ступені з-за існаваўшых у тыя часіны цэнзурных абмежаванняў, а таксама і таму, што ўвогуле беларуская мова не была яшчэ глыбока распрацавана і не мела глыбокага распаўсюджання.

Варта для пацвярджэння змен у поглядах Карскага на беларускую мову параўнаць назвы некаторых яго навуковых прац на працягу ўсяго толькі некалькіх гадоў. Дык вось, калі ў 1916 годзе выйшлі яго "Заметки по белорусскому наречию" і "Программа для собирания особенностей белорусского наречия", то ўжо праз два гады з'явілася праца вучонага "Белорусская речь. Очерки народного языка с историческим освещением" (Петроград, 1918 г.), а ў 1920 у Мінску была надрукавана кніга "Беларускі народ і яго мова". Прычым апошняя праца ўпершыню выйшла адразу на беларускай мове.

Пачынаючы з гэтых публікацый, Карскі поўнасцю адмовіўся ад свайго сцвярджэння ў "Белорусах" аб тым, што "белорусская речь является одним из великорусских наречий". У далейшым ён заўсёды прытрымліваўся думкі, што калі прыняць пад увагу ўсе асаблівасці беларускай мовы з усімі яе дыялектамі і гаворкамі, то яна (г.зн.мова — Э.Д.) "акажацца зусім асобным, арыгінальным арганізмам, які ўтварыўся гістарычна вельмі даўно".

У 20-я гады акадэмік Карскі рэзка негатыўна ставіўся да поглядаў некаторых сучасных мовазнаўцаў і даследчыкаў больш ранняга перыяду на мову беларускага народа як на нейкае "наречие", "поднаречие" або "акцент". Цяпер ужо Карскі прама заяўляў, што "адзінаю" асноваю для азначэння прыналежнасці да беларускага племя... можа служыць толькі жывая народная мова, неаддзялімая прыкмета беларускай народнасці ў працягу яе многавекавога жыцця".

Карскі адным з першых паставіў пытанне і прыкладаў шмат намаганняў да складання жывой беларускай мовы. Выдатны вучоны-філолаг асабліва падкрэсліваў, што неабходна зарэгістраваць усе тыя багацці, якімі валодае беларуская мова. А дзеля выканання гэтай цяжкай задачы Карскі раіў ствараць навуковыя ўстановы, масавыя гурткі, клубы па вывучэнню мовы беларускага народа.

У сучасных варунках развіцця нашага грамадства погляды, думкі першага акадэміка-беларуса набываюць асаблівую актуальнасць для агульнай справы адраджэння беларускай культуры і мовы. Зыходзячы з гэтага, сапраўдным запаветам і адначасова перасцярогай гучаць сёння яго прарочыя словы аб тым, што "калі асобныя члены любой народнасці "трацяць матчыную мову, яны перастаюць разумець сваю прыналежнасць к дадзенаму народу". Больш таго, такія людзі разам з моваю трымаюць чужыя звычаі і ўвогуле "для свайго народа з'яўляюцца страчанымі".

Э.Дубянецкі,
навуковы супрацоўнік.

Ігар Сідарук

## Кармушка

Колькі птушак!
Раз, два тры —
Трушчаць шышкі
Сне-гі-ры!
Дзюбкамі — тук-тук, тук-тук.
Не змаўкай, чароўны гук!

Важны,
Раіць нам снягір:
— Сыпце корм —
Працягнем пір!

# Немаўля

Беларускія народныя казкі

## ЛЁГКІ ХЛЕБ

Касіў на лузе касец. Змарыўся і сеў пад кустом адпачыць. Дастаў торбачку, развязаў і пачаў есці.

Выходзіць з лесу галодны воўк. Бачыць, касец пад кустом сядзіць і нешта есць.

Падышоў да яго воўк:

— Ты што ясі, чалавеча?

— Хлеб, — адказвае касец.

— А смачны ён?

— Дзіва што смачны!

— Дай мне пакаштаваць.

— Калі ласка!

Адламаў касец кавалак хлеба і даў ваўку.

Спадабаўся ваўку хлеб. Ён і кажа:

— Хацеў бы я кожны дзень хлеб есці, але дзе мне яго даставаць? Парай, чалавеча!

— Добра, — кажа касец, — навучу цябе, дзе і як хлеб даставаць.

І пачаў ён вучыць ваўка:

— Перш-наперш трэба зямлю ўзараць...

— Тады і хлеб будзе?

— Не, брат, пачакай. Потым трэба зямлю забаранаваць...

— І можна хлеб есці? — замахаў воўк хвастом.

— Што ты, пачакай яшчэ. Раней трэба жыта пасеяць...

— Тады будзе хлеб? — аблізнуўся воўк.

— Не яшчэ. Дачакайся, пакуль жыта ўзыдзе, халодную зіму перазімуе, вясной вырасце, потым закрасуе, потым пачне налівацць зярняты, потым спець...

— Ох, — уздыхнуў воўк, — вельмі ж доўга чакаць. Але цяпер то ўжо я наемся хлеба ўволю!

— Дзе там наясіся! — перапыняе касец. — Рана яшчэ. Спачатку спелае жыта трэба зжаць, потым у снапы звязаць, снапы ў бабкі паставіць. Вецер іх правее, сонейка прасушыць, тады вязі іх на ток...

— І есці хлеб буду?

— Які нецярплівы! Спачатку трэба снапы абмалаціць, зярняты ў мяшкі сабраць, мяшкі ў млын завезці ды мукі намалоць...

— І ўсё?

— Не, не ўсё. Муку трэба замясіць у дзяжы і чакаць, пакуль цеста падыдзе. Тады ў гарачую печ садзіць.

— І спячэцца хлеб?

— Але, спячэцца хлеб. Вось тады і наясіся яго, — скончыў касец навуку.

Задумаўся воўк, потым пачухаў лапай патыліцу і кажа:

— Не! Гэтая работа занадта марудная і цяжкая. Лепш парай мне, чалавеча, як лягчэй яду здабываць.

— Ну што ж, — кажа касец, — калі не хочаш цяжкі хлеб есці, параю табе лёгкі. Ідзі на выган, там конь пасецца.

Пайшоў воўк на выган. Убачыў каня:

— Конь, конь! Я цябе з'ем.

— Што ж, — кажа конь, — еш. Толькі спачатку здымі з маіх ног падковы, каб не ламаць табе зубы аб іх.

— І то праўда, — згадзіўся воўк.

Нагнуўся ён падковы здымаць, а конь як стукне яму капытом у зубы...

Перакуліўся воўк ды ходу.

Прыбег да рэчкі. Бачыць, на беразе гусі пасуцца. "Ці не з'есці мне іх? — думае. Потым і кажа:

— Гусі, гусі! Я вас з'ем.

— Што ж, — адказваюць гусі, — еш. Але спачатку зрабі нам адну паслугу перад смерцю.

— Якую? — пытаецца воўк.

— Паспявай нам, а мы паслухаем.

— Гэта можна. Спяваць я мастак.

Сеў воўк на купіну, задраў галаву і давай выць. А гусі крыламі — мах, мах! Узняліся і паляцелі.

Злёз воўк з купіны, правёў гусей вачыма і пайшоў далей ні з чым.

Ідзе ды лае сябе апошнімі словамі: "Ці ж не дурань я, га? Навошта я згадзіўся спяваць гусям? Ну, цяпер каго ні сустрэну — з'ем!".

Толькі ён так падумаў, бачыць, ідзе па дарозе стары дзед. Воўк падбег да яго:

— Дзед, дзед! Я цябе з'ем.

— Чаго так спяшацца! — кажа дзед. — Давай спярша табакі панюхаем.

— А смачная яна?

— Паспытай, дык будзеш ведаць.

— Давай!

Выняў дзед з кішэні капшук з табакаю, сам панюхаў і ваўку даў.

Як нюхнуў воўк на ўсю сілу, дык цэлы капшук табакі ўдыхнуў у сябе. А потым як пачаў чхаць на ўвесь лес... Нічога ад слёз не бачыць, усё чхае.

Так з гадзіну чхаў, пакуль усю табаку не вычхаў. Агледзеўся потым, а дзеда і след прастыў.

Пайшоў воўк далей.

Ідзе ён, ідзе, бачыць, на полі чарада авечак пасецца, а пастух спіць. Нагледзеў воўк у чарадзе самага большага барана, схапіў яго і кажа:

— Баран, баран! Я цябе з'ем.

— Што ж, — кажа баран, — такая мая доля. Але каб не мучыцца мне доўга, ды і табе каб не ламаць зубы аб мае старыя косці, стань лепш вунь у той лагчынцы і разяў рот, а я ўзбягу на ўзгорак, разганюся і сам ускочу табе ў рот.

— Дзякуй за параду, — сказаў воўк. — Так і зробім.

Стаў ён у лагчынцы, разявіў рот і чакае. А баран узбег на горку, разагнаўся ды — трах! — рагамі ваўка ў галаву. Аж іскры пасыпаліся з вачэй у ваўка, свету ён не ўбачыў.

Ачухаўся воўк, пакруціў галавою і разважае сам з сабою:

— Цікава, з'еў я яго ці не?

А тым часам касец скончыў работу ды ідзе дахаты. Пачуў ён воўкавы словы і кажа:

— З'есці то не з'еў, але паспытаў лёгкага хлеба.



Івэта, Жаржэта, М'юзэта... Ох... Ганулька! Фота А. СМІРНОВА.

*— Піянер, да барацьбы за справу камуністычнай партыі, будзь гатовы!*
*—...*

# Рабаванне па-піянерску

**З пратакола затрымання падазраваемага Сташкевіча А.В.:**

**У якім злачынстве падазраецца:**
*крадзеж дзяржаўнай маёмасці ў буйных памерах.*

**Партыйнасць:**
*піянер.*

6 верасня 1990 года ў мінскім салоне-магазіне "Радыётэхніка" чаргу займалі з самай раніцы: завезлі дэфіцытныя плэеры. Чарга рыхтавалася да штурму дзвярэй, а персанал магазіна распрацоўваў планы абароны. Увогуле ўсё было як звычайна...

Калі нарэшце натоўп крыху парадзеў, гадзіннік паказваў палову на шостую. Жанчына-касір гандлёвай залы Ш. падлічыла вялікую выручку, з палёгкай зачыніла на зашчапку касавы апарат з грашыма і знікла ў службовым памяшканні.

**З матэрыялаў крымінальнай справы:**

"Сташкевіч В.В., 1972 года нараджэння, прызыўнік і Гаруноў А.С., 1976 года нараджэння, вучань 9 класа СШ № 130 г. Мінска, 6 верасня 1990 года прыкладна ў 17 гадзін 45 хвілін знаходзіліся ў гандлёвай зале фірменнага магазіна-салона "Радыётэхніка". Папярэдне дамовіліся паміж сабой і маючы намер крадзяжу дзяржаўных грашовых сродкаў, яны з дапамогай ключа ад паштовай скрынкі адчынілі касавы апарат, адкуль спрабавалі тайна выкрасці грошы на суму не менш як 5 тысяч рублёў. Аднак давесці свой злачынны намер да канца не здолелі па прычынах, што не залежалі ад іх".

Аляксей Гаруноў і браты Сташкевічы — Вячаслаў і Аляксей — ведалі адзін аднаго даўно: некалі сябравалі іх маці (пакуль не пасварыліся, і маці Сташкевічаў не трапіла ў ЛПП). І мара ў сяброў была адзіная: мець модныя і такія зручныя маленькія магнітафончыкі-плэеры. Таму, выпадкова сустрэўшыся ў той дзень ля магазіна "Радыётэхніка", хлопцы доўга не разважалі...

**З матэрыялаў крымінальнай справы:**

"Гаруноў А.С. паказаў, што 6 верасня 1990 года ў другой палове дня ён сустрэў братоў Сташкевічаў. Сташкевіч Аляксей прапанаваў яму пайсці ў магазін "Радыётэхніка" і сказаў, што там можна "ўзяць" грошы. Гаруноў зразумеў, што Сташкевіч А. прапанаваў ажыццявіць крадзеж, але з прапановай згадзіўся, бо хацеў набыць плэер. Калі яны прыехалі ў магазін, то ўбачылі, як касір у касе на першым паверсе гандлёвай залы лічыла грошы, раскладвала іх па купюрах у кіпы і складала ў скрыню стала. Затым яна зачыніла скрыню і пайшла. Сташкевіч А. загадаў Гарунову і Сташкевічу Вячаславу падысці да касы і "прыкрыць" яго. Каля касы нікога не было. Сташкевіч Аляксей стаў ля скрыні з грашыма, Гаруноў – ззаду Аляксея, а Сташкевіч Вячаслаў стаў на рагу касавага апарата. Такім чынам яны "прыкрылі" Аляксея, які ключом ад паштовай скрыні адчыніў касу з грашыма і ўзяў з яе адной рукой прыкладна 4 пачкі грошай купюрамі 5, 10 і 25 рублёў.

Ў гэты час да касы падышоў мужчына ў акулярах і сказаў:"Пакладзі на месца". Сташкевіч Аляксей сунуў грошы Гарунову пад куртку, а сам уцёк. Сташкевіч Вячаслаў таксама ўцёк, а Гаруноў разгубіўся, пачаў выкладваць грошы на стол і быў затрыманы грамадзянамі..."

Калі міліцыя затрымала на месцы злачынства Гарунова, браты Сташкевічы нібыта зніклі. Малодшага з іх, Аляксея, удалося знайсці, а Вячаслава шукалі яшчэ амаль месяц.

15 лютага 1991 года судовая калегія па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда прыгаварыла: Сташкевіча В.В. і Гарунова А.С. да 3 гадоў пазбаўлення волі кожнага. Прысуд у адносінах да Сташкевіча быў вынесены ўмоўна, а ў адносінах да Гарунова — з адтэрміноўкай на два гады. Акрамя таго, судом было накіравана прыватнае вызначэнне ў мінскі магазін "Радыётэхніка".

У адносінах да непаўналетняга Аляксея Сташкевіча крымінальная справа не ўзбуджалася. Прыкладна праз месяц пасля выпадку ў магазіне "Радыётэхніка" ён спрабаваў такім жа чынам "узяць" касу мінскага ЦУМа...

**З правілаў для вучняў IY—YIII класаў, зацверджаных Міністэрствам асветы БССР 20 сакавіка 1972 года:**

"Працуй на агульную карысць у школе і дома. Пры выкананні працоўных заданняў і практычных работ строга выконвай правілы тэхнікі бяспекі... У вольны час займайся карыснымі справамі: чытаннем, тэхнічнай і мастацкай творчасцю, разумнымі гульнямі..."

П.Сіманаў,
Л.Гранкоўскі.



## *Крымінал-Гінэс*

### "ЧЭМПІЁНЫ" сярод забойцаў

У паўднёвакарэйскай правінцыі Кенсан-Намда 27-гадовы паліцэйскі У Бом Кон у п'яным стане за 8 гадзін — ноччу з 26 на 27 красавіка 1982 г.— забіў 57 чалавек, выпусціўшы па іх 176 куль і скарыстаўшы процітанкавыя гранаты. Калі ён апрытомнеў, то ўзарваў сябе гранатай.

* * *

9 чэрвеня 1975 г. у судзе Ланкастэра (Вялікабрытанія) кожнаму з шасці абвінавачаных было прад'яўлена абвінавачванне ў 21 забойстве 21 лістапада 1974 г., калі яны падклалі бомбы ў два бірмінгемскія рэстаранчыкі – "Малберы буш" і "Таверн ін таун". Імі былі Джон Уокер, Патрык Хіл, Ноэл Макілкені, Роберт Хантэр, Уільям Паўэр і Х'ю Калаган.

* * *

4 лістапада 1974 г. дваццацігадовай Джудзіт Міне Уорд са Стакпорта было прад'яўлена 12 асобных абвінавачванняў у забойстве ў выніку выбуху, які здарыўся ў армейскім аўтобусе М-62 каля Дрылінгтона (Вялікабрытанія) 4 лютага 1974 г.

* * *

Мэры Эн Котан (нарodж.Робсан, нарадзілася ў 1832 г., Усходні Рэйнтан, Вялікабрытанія) павесілася ў турме Дарэма 24 сакавіка 1871 г. Меркавалася, што яна атруціла 14, а, магчыма, і 20 чалавек.

### КРАДЗЯЖЫ

Найвялікшым з усіх зарэгістраваных абрабаванняў з'яўляецца абрабаванне рэйхсбанка ў красавіку або маі 1945 г., якое адбылося пасля паражэння нацысцкай Германіі ў другой сусветнай вайне. Міністэрства абароны ЗША ахарактарызавала гэтае здарэнне, упершыню занесенае ў "Кнігу рэкордаў Гінэса" ў 1957 г., як "неправеранае меркаванне". Тым не менш у кнізе Яна Сеера і Дугласа Ботынга "Нацысцкае золата", якая была апублікавана ў 1984 г., раскрываюцца ўсе акалічнасці гэтай справы, а вартасць украдзенага золата па бягучаму курсу ацэньваецца ў 2 мільярды 500 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

* * *

Пад час абрабавання сховішча "Найтсбрыдж сейфці дэпазіт сентэр" злачынцы ўзламалі 113 са 126 сейфаў і ўкралі каштоўнасці на суму 30 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Дырэктар-распарадчык Парве Лаціф (30 гадоў) быў адным з тых, каму прад'явілі абвінавачванне 17 жніўня 1987 г.

* * *

У 6 гадзін 40 хвілін 26 лістапада 1983 г. 6 рабаўнікоў у масках уварваліся на склады "Брынкс мет юніт-7" у раёне Хітроу (Лондан) і выкралі 6800 злiткаў золата і плаціны, а таксама брыльянты і турысцкія чэкі на суму 26 369 778 ф. ст. Майкл Макавы (32 гады) з Іст-Даліджа і Робінсан (41 год) з Луішэма былі прыгавораны да 25-гадовага турэмнага зняволення крымінальным судом "Олд-Бейлі" 3 снежня 1984 г.

### САМЫ ВЯЛІКІ выкуп за выкрадзеных

Самы вялікі выкуп атрымаў канкістадор Франсіска Пісара ад індзейскага інка за вызваленне свайго правіцеля Атауальпы ў 1532—1533 гг. у Перу. Зала была запоўнена золатам і серабром, цяпер іх кошт складаў бы 170 мільёнаў долараў.

* * *

Самы вялікі выкуп у нашыя дні складае 1 мільярд 500 мільёнаў песа (60 мільёнаў долараў). Ён быў выплачаны 20 чэрвеня 1975 г. лявацкай групоўцы "Мантанерас", якая дзейнічала ў Буэнас-Айрэсе (Аргенціна), за вызваленне братоў Хорхе (40 гадоў) і Хуана (39 гадоў) Борн.

### САМЫ ВЯЛІКІ выкуп, выплачаны за выкраданне самалёта

Самая вялікая сума, выплачаная за выкраданне самалёта, складала 6 мільёнаў долараў. Яна была выплачана японскім прадпрыемствам 2 кастрычніка 1977 г. за вызваленне 38 заложнікаў, якія знаходзіліся на борце лайнера ДС-8 японскай авіякампаніі, які прызямліўся ў аэрапорце горада Дака. Былі таксама вызвалены 6 асуджаных злачынцаў.

* * *

СССР. Найбольшая сума, калі-небудзь выплачаная ў СССР тэрарыстам, складала 3 мільёны долараў. Гэта адбылося тады, калі пяцёра крымінальнікаў, захапіўшы 1 снежня 1989 г. у Арджанікідзе (цяпер Уладзікаўказ), Паўночная Асеція, у якасці заложнікаў 30 школьнікаў з настаўніцай, патрабавалі валюту, зброю, наркотыкі і самалёт, каб вылецець за мяжу. Атрымаўшы патрабуемае, тэрарысты, якія аб'явілі заложнікамі экіпаж самалёта, вылецелі ў Ізраіль, адкуль хутка былі вернуты ў СССР.

У бюро дзяжурыў
П.Сіманаў.

# Інтэрнацкія страсці

*Студэнцкая сям'я*

*З любым, як вядома, рай і ў будане. Але ўсё ж пажадана, каб будан той быў падобны... ну, напрыклад, на ўласную кватэру. Ці, як мінімум, на асобны пакой у інтэрнаце.*

*Але гэта — у ідэале. А што на практыцы? Ці лёгка ён дастаецца нашаму маладому чалавеку, гэты "будан"? Вось тыповая гісторыя. І таму сваю знаёмую студэнтку і сённяшнюю субяседніцу назаву проста Наташа.*

— У чэрвені мы пажаніліся і адразу пачалі думаць аб жыллі. Спадзяваліся атрымаць пакой у студэнцкім інтэрнаце. Але вось пытанне: у якім? Я вучуся ў БДУ, мой муж — у РТІ, і мы падалі заявы кожны ў свой прафком.

У РТІ паведамілі, што ў інтэрнаце месцаў не хапае, што трэба засяляцца па абмену і што ўвогуле універсітэт багацейшы, няхай бы ён і засяляў.

У БДУ мяне сустрэлі пытаннем, якое гучала прыкладна так: "Хіба ў сваёй ВНУ "сваіх" студэнтаў не знайшлося?". Я разумею: інтэрнацкі пакой — усюды дэфіцыт, але навошта ж адразу так? Нават крыўдна!

Засяленне па абмену азначае вось што: колькі нашых студэнтаў (сямейных, вядома) засяляе РТІ, столькі ж "іхніх" павінен узяць у свой інтэрнат БДУ. І для гэтага самага абмену нам патрэбна было ўзяць у прафкоме універсітэта гарантыйнае пісьмо. Фармальнасць, растлумачылі мне, але без яе — ніяк.

Набліжалася восень, а разам з ёю і новы навучальны год. Трэба было ехаць у Мінск, недзе жыць. Я зноў пайшла ў прафком БДУ — па тое гарантыйнае пісьмо. Але... мне яго адмовіліся выдаваць. Чаму? Не растлумачылі. Не — і ўсё.

Не буду апісваць, як, нарэшце, з вялікімі цяжкасцямі атрымалі мы ордэр на пакой у адным з інтэрнатаў радыётэхнічнага інстытута. Але рана ўздыхнулі з палёгкай! Каб засяліцца, трэба было спачатку выпісацца адтуль, дзе жылі раней, са сваіх інтэрнатаў. Мы не ведалі, куды нам падзецца, і пачалі прасіць каменданта даць нам ключы ад пакоя, але дарэмна: камендант патрабаваў захавання ўсіх фармальнасцей. "А калі вы гэтага хуценька не зробіце, на ваша месца каго-небудзь засялю".

Мы былі ў адчаі: ніякага прытулку. Што называецца, паміж небам і зямлёй. А тут яшчэ мой курс пад пагрозай выключэння пасылаюць на "бульбу". Я ад'язджаю, мой муж жыве ў сяброў. Ходзіць на заняткі і бегае па інстанцыях, збіраючы розныя даведкі. Калі я вяртаюся ў канцы верасня, тое ж самае даводзіцца рабіць і мне...

Але нарэшце настаў доўгачаканы дзень — восьмае кастрычніка. Шкло выбіта, электраправодка адсутнічае, пакой патрабуе рамонту, але затое — засяліліся! Выклікаем электрыка, сталяра — не ідуць. Як можам, робім рамонт самі. Але ж затое — ёсць свой дом, свой дах над галавой! Паміж пакоямі фанера, і мы чуем, як суседзі чыркаюць запалкай, ставяць на стол талерку... Добра, што ў іх няма малога дзіцяці...

А цяпер давайце зірнём на праблему з другога боку. Гаворыць Генадзь Уладзіміравіч Пацекін, старшыня прафкома студэнтаў БДУ:

— Паспрабуй тут угадай, калі і колькі студэнтаў ажэніцца. Звычайна мы забяспечваем тых, хто падаў заяву да пачатку верасня. Калі муж і жонка з розных ВНУ — тады больш складана. Паміж прафкомамі навучальных устаноў мала ўзгодненасці ў дзеяннях. Ну, напрыклад, БПІ засяляе пяць нашых студэнтаў, а нам прысылае пяць сваіх. А калі яны ажэняцца з хімікамі? Іх трэба сяліць на хімфак, а ў яго самога з месцамі глуха. Фондамі зараз распараджаюцца самі факультэты, у іх — кожны пакой на ўліку.

Зараз у інтэрнатах БДУ жыве каля 150 студэнцкіх сем'яў. Але месцаў усё роўна не хапае. Пра што казаць, калі на адным гістфаку ў гэтым годзе са ста першакурснікаў 88 іншагародніх? Такое не часта бывае.

У якасці жылля нам прапаноўвалі перадаць карпусы ваеннага вучылішча — мы адмовіліся. Далёка. Нашы інтэрнаты і так па ўсім Мінску: на Машэрава, у Шчомысліцы, на Матусевіча... Зараз вось "выбіваем" будынкі былой ВПШ — вышэйшай партыйнай школы на вуліцы Карла Маркса. Два інтэрнаты, сталоўка, вучэбны корпус...

Ну, што ж, як кажуць англічане, спадзявайся на лепшае, а рыхтуйся да горшага. Жыццё не стаіць, моладзь як жанілася, так і жэніцца. Студэнты як вучыліся, так і вучацца. Пажывём — пабачым, што будзе з намі далей.

Таццяна Снітко,
студэнтка БДУ.



*Свет пачуццяў*

# ЦЯЖКАЕ КАХАННЕ

Вольга рыхтавала гарбату.

– Уяўляеш, у мяне ёсць англійская заварка, пасвяткуем, – яна падміргнула мне бліжэй загаворшчыца.

З гэтай дзяўчынай я пазнаёмілася на адной з "тусовак". Мне захацелася паглыбіць знаёмства і я амаль што напрасілася ў госці.

Памешваючы гарбату лыжкай, Вольга расказвае пра сябе:

– Каханне, аб якім марыла, якога чакала, тым не менш звалілася знянацку. Пасля першага курса пазнаёмілася з Ігарам. Ён старэйшы за мяне на тры гады. Было прыемна, калі высокі статны хлопец прыходзіў да мяне проста так, пагаварыць. Дагэтуль захоўваю яго запіскі: "Вольга, даўно не размаўляў з табой. Буду рады цябе бачыць". Але я абуралася: "Што гэта за словы такія – буду рады цябе бачыць"? А часам і думала: "Навошта ён прынёс мне гэты гваздзік? Мне нічога не патрэбна".

А потым прыйшло хваляванне. Вяртаючыся дамоў, я кожны раз спадзявалася знайсці запіску ад яго. Калі запіскі не было, я ведала, што Ігар зойдзе сам. І ўжо чакала яго знаёмага стуку ў дзверы. Ігар прыходзіў, я адчыняла яму чырвоная ад хвалявання і радасці. Ён мне кожны раз што-небудзь расказваў, а я адчувала сябе няёмка, хацела, каб мне было лёгка з ім, але нічога не магла змяніць.

Так і пайшло: "Я сёння ўбачу яго! Сёння мы разам ідзём гуляць". Свет быў рознакаляровы.

Безумоўна, Ігар усё разумеў. Ён падштурхнуў мяне да прызнання, вымавіўшы якое, памятаю і цяпер, не ведала, куды падзець вочы.

Узрушаная, званю сяброўцы, расказваю, як усё было. "Лена, мы прызналіся адзін аднаму!" – "Вы прызналіся?! Дык гэта зрабіла толькі ты".

Я адчувала, што Лена кажа праўду. Так, Ігар сапраўды не кахаў мяне, але мне было дастаткова, што ён са мной не такі, як з іншымі дзяўчатамі. Гэта я бачыла дакладна. І спадзявалася, што сіла майго кахання зменіць нашы адносіны, бо я была гатова дзеля яго на ўсё. "Ён пакахае мяне за тое, што я так кахаю яго!".

Якая ж я той вясной была шчаслівая! "Пахарашэла", – у адзін голас гаварылі аднакурснікі. "Расцвіла", – сказала маці.

Ігар быў уважлівы, часта дарыў кветкі. Тая вясна для мяне – вялізны букет жоўта-чырвоных цюльпанаў.

Вольга спынілася. Напэўна, чырвоныя і жоўтыя кветкі былі зноў тут, разам з ёй.

– Потым Ігар пачаў заходзіць праз дзень, праз два, спасылаючыся на справы. Ён быў па-ранейшаму чулы, але мне не хапала яго, у мяне псаваўся настрой, калі не бачыла яго кожны дзень. Я не крыўдавала – разумела, што справы – гэта справы. Але нічога не магла з сабою зрабіць, і адной проста заплакала ад суму. Зараз гэта смешна, а тады было балюча.

З цягам часу стала звыкацца з думкай, што Ігар – свабодны чалавек, і што я не павінна прэтэндаваць на яго свабоду. Я мянялася знешне і ўнутрана на вачах. І гэта быў уплыў Ігара. Я рабіла прычоску, якую прапанаваў ён, апраналася, як падказваў ён, чытала тое, што чытаў мой каханы.

Але ўсё ж мы заставаліся нейкімі далёкімі. Я адчувала: Ігар штосьці недагаворвае. Усё часцей мучыла думка, што Ігар не кахае мяне. Нават некалькі разоў пазбягала сустрэчы з ім.

Вольга з адсутным позіркам зацягнулася два разы, скінула попел з цыгарэты. Узмахнуўшы кароткай стрыжкай, нечакана выпаліла:

– Ён "блакітны".

Я адразу неяк прырасла да месца і падумала: "Добра, што ў мяне кубак у руках".

– О, што было, калі Ігар адкрыўся мне. Я адмаўлялася разумець гэта: як так магло здарыцца, што чалавек, якога я так кахаю – гомасексуаліст? Я плакала штодня, ненавідзела прыроду, якая зрабіла яго такім. Кажуць жа, што ў прыродзе ўсё гарманічна. Што ж гэта за гармонія – такая жорсткая? А падзяліцца я ні з кім не магла. Да сённяшняга дня не магла. – Вольга гаварыла роўна, спакойна, як аб вельмі далёкім.

– Я хадзіла сумная, а ўсе навакол казалі мне: "Кідай яго, табе не такі чалавек патрэбен". Я слухала, згаджалася, але нічога не мяняла.

Пазней стала звыкацца з гэтай думкай, разумела, што павінна забыць Ігара. Тры разы вырашала расстацца з ім назаўсёды і кожны раз плакала па двое сутак.

Вольга ўсміхнулася:

– Ігар прасіў мяне застацца з ім, бо я стала для яго сябрам. Ён казаў мне: "Рабі, што хочаш, гуляй, з кім хочаш, толькі не пакідай мяне. Без цябе мне будзе цяжка".

І я заставалася, у мяне не было сіл паставіць кропку.

Вось ужо паўгода у нас з Ігарам проста цудоўныя адносіны. Мы часта сустракаемся, падоўгу размаўляем. Ён працуе, я вучуся. У мяне сваё жыццё, у яго – сваё. Але я адчуваю, што маё каханне жыве.

– Прабач, Вольга, і табе няцяжка кахаць і ведаць, што гэта амаль бессэнсоўна? – мой голас прагучаў па-здрадніцку глуха.

– Але гэта не так. Мы паасобку, але мы і разам. Нам добра. Магчыма, пачалося з таго, што я стала сама сабой. Адчуваю патрэбнасць у гэтым чалавеку і бачу, што я яму таксама неабходна. Ды і ў сексе ў нас гармонія.

Мы з Вольгай яшчэ доўга размаўлялі. Многае я не змагла прыняць, не ўсё зразумела, штосьці мяне здзівіла. Але няшчаснай яна мне не падалася.

П.Крылова.

*Многія этычныя каноны, што ўкараніліся ў нашай свядомасці, сёння сябе зжылі. Так, у цывілізаваных краінах для папярэджвання бескантрольнай нараджальнасці разумова адсталых дзяцей ужо даўно створаны юрыдычна абгрунтаваныя абмежаванні.*

## ДАЛІКАТНАЯ ТЭМА

# КАЛІ ДЗЕЦІ НЕ ПАТРЭБНЫЯ

*У нас жа, на жаль, натуральнае для кожнага чалавека жаданне мець уласнае дзіця трансфармуецца некаторымі, хаця і дзеяздольнымі, але ўсё ж псіхічна не зусім здаровымі людзьмі ў нейкі сапраўды паразітычны занятак.*

Думаю, мае сэнс даверыцца набытаму заходнімі калегамі вопыту ў плане ўпарадкавання палавых адпраўленняў разумова адсталых, невылечна псіхічна хворых людзей, наладзіць кантроль над іх сексуальнай актыўнасцю. Патрабуе перагляду, на маю думку, і падыход да рашэння пытання аб захаванні жыцця нованароджаным з цяжкай псіхічнай ці нават любой іншай саматычнай паталогіяй.

Пасправабую гэтыя свае меркаванні аргументаваць.

У кожным доме-інтэрнаце, на жаль, пакуль яшчэ нярэдкія прэцэдэнты выпадковай пазашлюбнай цяжарнасці разумова адсталых выхаванак. Вось канкрэтны прыклад. У Веснаўскім доме-інтэрнаце для разумова адсталых дзяцей Міністэрства сацыяльнага забеспячэння БССР жыла Лена Ф., 1971 года нараджэння, імбецылка з сіндромам Крузона. Затрымалася яна ў дзіцячай установе з-за часовай адсутнасці месцаў у псіханеўралагічных інтэрнатах для дарослых. Бацькі забралі яе ў мінулым годзе на ўсё лета да сябе. Неабходны інструктаж дзэтдомаўскі персанал, натуральна, не правёў. І, як вынік, позна выяўленая цяжарнасць і нараджэнне непаўнацэннага дзіцяці. Дзяўчына ж была ўжо ў такім узросце, што не толькі бацькам, але нават і ёй самой можна было б даходліва расказаць пра асноўныя спосабы посткаітальнай кантрацэпцыі (хаця б пра такую простую гігіенічна-засцерагальную меру, як спрынцаванне).

Другі прыклад. Лена Ш., 1969 года нараджэння, яўная дэбілка, добрасумленная работніца. Пазнаёмілася ў мінулым годзе з камандзіровачным рабочым, які прымаў удзел у будаўніцтве на тэрыторыі Веснаўскага дзетдома. За 100 г гарэлкі, калі верыць самой пацярпеўшай, яна без ваганняў згадзілася перапсаць з новым знаёмцам. Імя партнёра Лена не адкрыла нікому, бо той узяў з яе слова захоўваць поўную тайну. Паколькі тут цяжарнасць заўважылі хутчэй, чым у першым выпадку, дзяўчына была накіравана на аборт. У працэсе аперацыі з мэтай недапушчэння падобных выпадкаў Лене зрабілі перавязку фалопіевых труб.

У Веснаўскім дзетдоме, калі верыць афіцыйнай медыцынскай статыстыцы, у 8 працэнтаў дзяцей маецца хаця б адзін з бацькоў – разумова адсталы і таксама знаходзіцца на поўным ці частковым дзяржаўным забеспячэнні. Колькасць жа розных сямейных форм алігафрэніі ў гэтых краях (калі зрабіць папраўку не толькі на сцёртасць тых ці іншых прыкмет хваробы, але і на інфармацыю, якую ўтойваюць родныя) досыць вялікая. Браты і сёстры, дзядзькі і цёткі, бацькі і маці з такіх сем'яў толькі і робяць, што паралельна, а бывае, і насустрач рухаюцца з адных устаноў сацзабеспячэння ў другія, якія знаходзяцца звычайна недалёка ад першых. Многія з іх імкнуцца весці самастойнае аседлае жыццё і – пры гэтым зноў і зноў пладзіць на свет непаўнацэннае патомства. Што ж датычыцца непасрэдна кантынгенту выхаванцаў Веснаўскага дзетдома, то на фоне мноства родных дуэтаў, што жывуць тут і сталі ўжо звыклай з'явай, асабліва выдзяляюцца два незвычайныя трыо. Света і Тома Сталевічы (усе прозвішчы хворых зменены) і Валя Вералейчык, нягледзячы на розныя прозвішчы, яны родныя сёстры. Другое – сямейства Кулебаў: сёстры Аксана, Лена і іх брат Саша.

Дакументальная гісторыя сям'і Кулебаў свой марафон пачынае ў адной з вёсак Магілёўскай вобласці. Там муж і жонка Пётр Рыгоравіч і Галіна Андрэеўна разам з першымі дзецьмі праводзілі свае маладыя гады ў невялікай цеснай хатцы. З імі жылі яшчэ і іх старыя. Сямейны саюз Кулебаў аказаўся настолькі пладавітым у самым прамым сэнсе гэтага слова, што неўзабаве шматдзетныя маладыя вымушаны былі перабрацца на пастаяннае месца жыхарства ў суседнюю вёску, ва ўласны, больш прасторны, дом. Пётр Рыгоравіч пайшоў працаваць на мясцовую жывёлагадоўчую ферму, а Галіне Андрэеўне, натуральна, даводзілася цэлымі днямі даглядаць дзяцей і выконваць хатнія абавязкі.

Як вы паспелі ўжо здагадацца, і муж, і жонка мелі значныя ступені разумовай адсталасці. Гэта тым больш крыўдна, што энергічны, вясёлы, чарнавокі Пётр Рыгоравіч заўсёды быў вялікім працаўніком, ды і, акрамя ўсяго, ледзь не першым прыгажуном у вёсцы. Што ж датычыцца дзяцей, то пладзіліся яны ў нашых герояў з няўяўнай хуткасцю. Як казалі аднавяскоўцы, якія блізка ведалі гэтую сям'ю, што, калі б не заўчасны трагічны канец, адпаведныя лічбы маглі быць дзесьці на ўзроўні кнігі рэкордаў Гінэса.

Расказвае загадчык калгаснай фермы Аляксей А.:

– Еду я неяк уздоўж абочыны на матацыкле ў Бабруйск. У зімовым змроку нават сумётаў не бачна, толькі дрэвы мільгацяць. Раптам чую: лямант – нібыта рэжуць кагосьці. Скочыў з матацыкла і пайшоў на крык, пакуль, нарэшце, не натрапіў на Галіну. Качаецца прама на снезе і крычыць: "Ой, Лёша, ратуй, раджаю!". Выйшаў я на дарогу і пачаў сігналіць, каб злавіць якую-небудзь машыну. Якраз ехала міліцыя, падабрала. У машыне і нарадзіла. У бальніцу ехаць не захацела, адвезлі мы яе дамоў. Пачаў я ёй там дапамагаць, каб дзіця троху прывесці ў парадак. А ў хаце – горш, чым у хляве! Я ледзь вытрымаў, заціснуў нос пальцамі і хутчэй выбег адтуль. Якраз яна тады нарадзіла Ленку, самую малодшую сваю.

Характэрна, што, атрымліваючы на дзяцей дапамогу, Галіна Андрэеўна не жадала аддаваць іх ні ў якія дзяржаўныя ўстановы. Так яны і хадзілі за ёй хвастом – як цыганяты. Яблык ад яблыні, як вядома, недалёка падае. Таму нядзіўна, што дзіцячыя забавы Кулебаўмалодшых не заўсёды адпавядалі звычайным гульням іх равеснікаў. Неяк яны падпалілі і свой уласны дом. Бацька, начаваўшы ў тую ноч у пуні, пабег было тушыць, але ў выніку згарэў сам.

Кінуўшы зруйнаванае пажарышча, маці з дзецьмі накіраваліся на пошукі новага жытла. Але жыхары навакольных вёсак рашуча адмаўляліся ад суседства, бо баяліся, што дзеці зноў што-небудзь спаляць. Нарэшце, праўленне калгаса выдзеліла сям'і дом у вёсцы Стрэхава непадалёку ад лесу, падалей ад іншых пабудоў. Там, у баку ад людзей, яны і жылі, пакуль не памерла Галіна Андрэеўна.

Трох дзяцей адправілі ў Веснаўскі дзіцячы дом для разумова адсталых, а некаторых з ужо пасталеўшых членаў сям'і – у Каменскі інтэрнат таго ж профілю. Па нашых звестках, з васьмі раскіданых па розных кутках дзяцей гэтага сямейства толькі двое з'яўляюцца разумова паўнацэннымі людзьмі. Што тычыцца выхаванцаў Веснаўскага дзіцячага дома Сашы, Лены і Аксаны, то яны вельмі падобныя адзін да аднаго. Так, ва ўсіх трох – недаразвітая мова, якую яны атрымалі ў спадчыну ад бацькі. Зразумець іх "тарабарскую" гутарку, якая ствараецца з малазразумелага набору адна- і двухскладовых слоў, звычайнаму чалавеку практычна немагчыма.

Усе трое – тыповыя імбіцылы, якім ужо загадзя прыгатавана доля ўсё жыццё быць для грамадства каменем на шыі.

Вядома, я далёкі ад думкі, накшталт фашысцкіх ідэолагаў, заклікаць да знішчэння такіх людзей як непатрэбнага баласту. Але адпаведныя меры прафілактыкі ад нараджэння імі сабе падобных, лічу, прыняць нам проста неабходна. Бо на словах змагаемся за падтрыманне чысціні генафонду, а на самай справе не робім нават мінімальных практычных крокаў.

За мяжой, асабліва ў цывілізаваных краінах Захаду, праблема абмежавання нараджальнасці інтэлектуальна непаўнацэнных членаў грамадства даўно ўжо вырашана. Там не перашкаджаюць, а ў некаторых выпадках нават заахвочваюць стварэнне, скажам, алігафрэнамі сваіх уласных сем'яў. Але абавязкова прымаюць усе неабходныя меры. Часцей за ўсё гэта прымусовая кантрацэпцыя – для мужчын і стэрылізацыя для жанчын.

Ці не час і нам, адкінуўшы ханжаства і лжэгуманізм, паклапаціцца пра будучыню сваёй нацыі?

С.СЛІШЫНСКІ.



# Хто бадаўся ў небе?

*Тэлефонная слухаўка самавітым голасам казала, нібыта некалькі чалавек у Пракшэнічах Магілёўскага раёна назіралі дзіўную з'яву: у небе бадаліся два бараны. Таямнічы абанент не прасіў паведамляць аб гэтым у газеце, ён хацеў звязацца з астролагамі, каб высветліць, ці можна гэтаму верыць. Мы ўсе хорам адказалі "Не!" і ўсё ж...*

Пракшэнічы суседнічаюць з Магілёўскім аэрапортам. А ўфалагічная статыстыка сведчыць: НЛА "любяць" такія месцы і, у прыватнасці, наш аэрапорт.

Не ведаю, як НЛА, але наш рэакцыйны "уазік" з цяжкасцю спусціўся ў маленькую вёсачку. Узляцець — не ўзляцелі, але паляцець маглі. Альбо засесці, калі б не падмёрзлая савецкая бездараж.

Дзве агрэсіўна настроеныя казы-беласнежкі пасвіліся каля дома. Але ўявіць, як яны бадаліся ў небе, нават у год Казы складана.

"Стукайце, і вам адкрыюць!" Так і зрабілі. Але на пытанне, ці бачылі вы што-небудзь незвычайнае ў небе, вяскоўцы адказвалі адмоўна:"Нічога не бачылі, ды і не чулі. У магазін, лічы, тыдзень хлеба не завозяць, так што і навін няма". Ужо з'явіўся неспакой, што нашы пытанні народзяць чуткі і ўсхвалююць адносна ціхае жыццё пенсіённага насельніцтва Пракшэніч. Хаця ціхім яго назваць нельга да 10 гадзін вечара: самалёты ж ідуць на пасадку прама над вясковымі дахамі, лакатар стаіць на ўзгорку.

Але хто шукае, той заўсёды знойдзе:

— Планецяне? Чула. Суседкіна дачка бачыла, — адказала бабуля на вуліцы.

На шчасце, Таісія Якаўлеўна Ільюшына аказалася дома і дала тэлефон дачкі. Вось што распавяла Валянціна Іванаўна Самалазава.

4 кастрычніка а сёмай гадзіне вечара яна з сынам выйшла з аўтобуса ў Нікіцінічах. Вечар ціхі, паветра празрыстае і надзвычай яркія зоркі, якіх не ўбачыш у горадзе. Андрэй загледзеўся на неба і пацягнуў маці за руку:"Глядзі, нешта ззяе". Валянціна Іванаўна адмахнулася. Але, павярнуўшы галаву ў бок лесу, убачыла, як да лакатара набліжаўся, а затым завіс нейкі яркі аб'ект. Ён нагадваў шар над сцэнай у Магілёўскім драмтэатры. І бліпічаў, як ёлачная цацка. Ад яго з'явіўся прамень конусападобнай формы і пачаў апускацца да лакатара. Потым прамень не згас, а як бы ўцягнуўся ў шар. І той шар, ярка ззяючы, плаўна і бязгучна рушыў да маці з сынам, якія стаялі на дарозе. Валянціну Іванаўну ахапіў жах, яна пацягнула Андрэя за руку, і яны панесліся ўніз, у вёску, каб дзе-небудзь схавацца. Азірацца ўжо не было моцы. Калі ўбеглі ў родны дом, дык Таісія Якаўлеўна спужалася: дачка і ўнук сталі на ганку белыя, што прасціна, і лёдзьве пераводзілі дух. Валянціна Іванаўна наперабой з Андрэем пачалі распавядаць родным, што яны бачылі, паўтараючы, што ніколі раней не верылі такім гісторыям.

Не ведаю, як вы, а я таксама паверыла.

**І.Савосіна**
**("Магілёўская праўда").**

*Альтэрнатыўная медыцына*

# Магніт стварае цуды

Такой інтрыгуючай фразай пераконвае ўсіх прафесар Уільям Філпот, вядомы амерыканскі псіхіятр, які даследуе хімічныя працэсы ў мозгу і іх уплыў на агульны стан чалавека. Аўтарытэт вучонага, аўтара шматлікіх гучных навуковых адкрыццяў у галіне хіміі мозгу прымушае нас паверыць або хаця б праверыць гэта, балазе рызыка невялікая.

На здароўе як фізічнае, так і псіхічнае уплывае наша магнітнае поле. На думку прафесара, дастаткова два брусковыя магніты даўжынёю 15 см памясціць пад матрац, на якім спім, для таго, каб затармазіць працэс старэння, актывізаваць імунную сістэму, ліквідаваць болі, вылечыцца ад шматлікіх хвароб. "Гэта зусім пакуль новая галіна ў медыцыне, — піша выдатны вучоны. — Бо з дапамогай звычайнага магніта можна ўплываць на электрычную актыўнасць мозгу, без пабочнага дзеяння".

"Мая вучоная група эксперыментавала больш як на 3 тысячах выпадках розных захворванняў, ад звычайнага катару да страшэннага СНІДу. У кожным без выключэння выпадку наступала паляпшэнне, зрэдку і агульнае вылячэнне, нават там, дзе афіцыйная медыцына не мела эфектаў". Сістэматычны сон на магнітах прынёс значныя вынікі ў выпадках: артрыту, новаўтварэнняў, СНІДу, вірусных інфекцый, таксічных атручванняў, стрэсаў, расстройства органаў дыхання, узмоцненага працэсу старэння, аслабленай патэнцыі, бяссонніцы, запаленчых працэсаў. Пацверджана аслабленне болю, узмацненне фізічнай і разумовай актыўнасці, а таксама карысны ўплыў на загойванне ран.

Праверка на самім сабе каштоўнасці дадзенага адкрыцця з'яўляецца вельмі простай справай. Згодна з прафесарам Філпотам, патрэбна запасціся двума пятнаццацісантыметровымі магнітамі з абазначанымі полюсамі, якія неабходна памясціць пад матрацам у галавах на 10 см вышэй падушкі з нацэленымі ў галаву адмоўнымі полюсамі. Магніты пад матрацам павінны быць аддалены ад сябе на 25 см.

"Усе органы і сістэмы чалавечага арганізма рэагуюць на магнітнае поле, — піша прафесар Філпот. — Адпаведнае прымяненне магнітаў, галоўным чынам у час сну, можа мець на нас вельмі карысны ўплыў і, што самае галоўнае, не можа пашкодзіць. Пакладзі пад матрац — і будзь здаровы!"

Такім чынам, паважаныя чытачы, каму ў наш час амаль што суцэльнага дэфіцыту ўдалося дастаць сабе хоць бы звычайны магніт і праверыць яго ўздзеянне па тэорыі амерыканскага прафесара, просьба, калі не цяжка, падзяліцца вынікамі з нашымі астатнімі чытачамі.

**Падрыхтаваў**
**К.Вакуленка.**



# Кругі... для дурняў

Аднойчы, у далёкім цяпер 1978 годзе, сядзелі ў піўным бары ў мястэчку Галоўка Сыру два сябры Дэйвід Чорлі, якому тады было 49 гадоў, і Даглас Боўэ, узрост якога складаў 54 гады. Сядзелі, галовы ламалі, што б вясёленькага зрабіць.

Пад той час вельмі шмат лятаючых талерак круцілася ў паветры. І яны прыдумалі...

На працягу 13 гадоў кожнае лета хлебныя палі Паўднёвай Англіі штампаваліся малюнкамі яўна незямнога паходжання: каласы прыціснуты ў форме кругоў розных памераў, тырчаць нейкія антэны, разыходзяцца паўкругі і іншае. Бачылі мы гэтыя здымкі ў газетах неадноўчы... Адстаўны інжынер Пэт Дэлгадо страціў спакой. "Гэта здольны зрабіць толькі вышэйшы розум, прышэльцы з космасу, чалавек такое зрабіць не можа..." Пэт хадзіў па палях, вывучаў, напісаў кнігу "Доказы ў выглядзе круга". І ён быў далёка не адзіны ў сваіх даследаваннях. Вучоныя з розных краін ламалі галовы, будавалі тэорыі, замяралі таямнічую энергію, якую выпраменьвалі кругі. Узнікла нават спецыяльная навука.

...А вясёлыя сябры Дэйвід і Даглас працавалі. Рабілі дэтальны чарцёж наступнага малюнка, бралі няхітрае абсталяванне – драўляную дошку даўжынёй у метр дваццаць, маток вяроўкі. Даглас апранаў бейсбольную шапачку з прымацаваным на брылі "глазамерам" і ішлі на поле дзейнасці. Адзін станавіўся ў цэнтр будучага круга і трымаў канец вяроўкі, другі яе нацягваў і дошкай, прывязанай да вяроўкі, "прасаваў" цяжкія каласы па гадзіннікавай стрэлцы віток за вітком. Доўгія тры гады творчасць сяброў ніхто не заўважаў. А потым пачалося!...

"Нас падманулі". Пэт Дэлгадо абсалютна раздаўлены: справа ўсяго жыцця аказалася чыімсьці жартам. У каторы раз вялікае ад смешнага аддзяляў адзін крок. "Калі ўсё гэта праўда, мы ўсе аказаліся ў дурнях". Бадай што, так... (Аб гэтым паведамляе часопіс "Тайм").

НА ЗДЫМКАХ:

- Творы вясёлых рабят у графстве Уілтшыр.
- Вясёлыя рабяты Дэйвід Чорлі (злева) і Даглас Боўэ.



*Спрытныя пруткі*

# ЦЁПЛЫЯ ВЯЗЁНКІ

Іх можна звязаць з рэшткаў яркай воўны, упрыгожыць арнаментам. Мы даём выкрайкі мужчынскай, жаночай і дзіцячай вязёнак. Памеры можна ўдакладніць па руцэ.

Рукавіцы можна і сшыць, выкарыстоўваючы падыходзячую тканіну — мяккую, эластычную ці непрамакальную тыпу "балоння" — тады трэба падумаць пра цёплую падкладку (дарэчы, тут можна выкарыстаць і старыя трыкатажныя рэчы). У такім выпадку рукавіца выкройваецца разам з падкладкай, ля запясця прызбораецца, каб магла прайсці рука, а потым прышываецца да звязанай асобна на прутках манжэты. Дзіцячыя рукавічкі можна ўпрыгожыць аплікацыяй.




*Ля люстэрка*

## МАРОЗ І СОНЦА...

Хочаце выглядаць прыгожа не толькі ў святочны дзень? Тады карыстайцеся нашымі парадамі.

Нават нармальнай скуры вецер і мароз моцна шкодзяць. Лепш за ўсё выкарыстоўваць тлусты крэм для аховы ад сонца. Або начныя крэмы для дня. І ні ў якім разе не ўвільгатняючыя.

Пры сабе абавязкова трэба мець гігіенічную памаду. А калі губы ўсё ж патрэскаліся, змажце іх на ноч некалькімі кроплямі рыцыны — і яны зноў зробяцца мяккімі.

Калі ад холаду вашы вочы чырванеюць, паспрабуйце зрабіць кампрэсы з рамонкавым настоем. А для скуры твару пойдзе на карысць паравая ванначка. Адну сталовую лыжку сухіх кветак рамонку на два [illegible] кіпню. Накрыўшы галаву ручніком, схіліцеся, каб пара не выходзіла. Працягласць — 5 мінут.

Можна зрабіць маску з вітамінам Е. Змяшаць адзін жаўток, чайную лыжку прарослага зерня пшаніцы, чайную лыжку дражджэй і 2 сталовыя лыжкі алею (сланечнікавага, аліўкавага і г.д.). Нанесці на твар і шыю. Пасля высыхання маску змахнуць і змыць вялікай колькасцю вады.

Вы скардзіцеся, што скура на руках сухая і патрэскалася? Таксама зрабіце для яе маску: нанясіце тоўстым слоем рэшткі дзённага і начнога крэму або нявыкарыстанага летам крэму для аховы скур[illegible] ад сонца, патрымайце [illegible] мінут і змыйце.

*Сам-хімчыстка*

## З ФУТРАМ — МУДРА

Калі хочаце, каб ваша футра насілася больш доўга і не страчвала выгляду, не вешайце сумку на руку, тым больш замком да адзення.

Футра, якое трапіла пад дождж ці снег, атрэсці і павесіць на "плечкі" далей ад гарачай батарэі. Не сушыце вільготнае футра на сонцы і над агнём. Калі футра высахне, моцна страсяніце, але не расчэсвайце ні шчоткай, ні грабеньчыкам.

Не вешайце футра ля пабеленай сцяны — вапна псуе яго.

Запыленае футра выбіце эластычным прутком. Калі пылу назбіралася шмат, раскладзіце футра на анучы або прасціне ворсам уніз і выбіце больш энергічна.

Белае футра добра чысціць бульбяной мукой, а для бляску працерці анучай, змочанай воцатам.

Натуральнае футра, якое пажаўцела ад часу, можна адбяліць перакісам вадароду, дадаўшы да яго некалькі кропель нашатырнага спірту.

Плямы ад тлушчу можна вывесці, праціраючы футра ў адным накірунку анучай, змочанай ачышчаным бензінам або спецыяльным плямавыводнікам. Можна прамыць плямы пенай ад мыльнай стружкі, якую ўціраюць у футра, стараючыся не ўвільгатняць скуру. Потым месца, дзе была пляма, прамываюць вадой пакаёвай тэмпературы. Футра высушваюць, выкалачваючы прутком.

Штучнае футра можна мыць у мыльным растворы, папярэдне адпароўшы ў рэчы падкладку. Старанна прапаласкаўшы футра, закатайце яго ў прасціну, а потым распраўце і сушыце на "плечках". Белае штучнае футра пасля мыцця можна падсініць.

(Часопіс "Работніца").

Старонку вядзе Наталля Плыткевіч.

*Атэлье "ЧЗ"*

## І ХОЛАД НЕ СТРАШНЫ!

У кожным доме, безумоўна, знойдуцца кавалачкі штучнага ці натуральнага футра, драпу, байкі, рэшткі воўны, якія і выкінуць шкада і як выкарыстаць — невядома. Змайструйце для вашага малога яркую, стракатую камізэльку — яе апранаюць на сукенку, кашулю ці світэр. Паглядзіце на мадэлі, прапанаваныя мастаком Э.Лабджанідзе.







*1. Камізэлька з апухай, якую можна зрабіць з кавалачкаў натуральнага або штучнага футра. Можна і звязаць кручком.*

*2. Маленькая камізэлька для дзяўчынкі выкройваецца даволі проста: прамое палатно з адтулінай для галавы. Па плячах невялікія "крылцы". Па баках камізэлька завязваецца на стужачкі ці тасьму. Спераду вышыўка або аплікацыя.*

*3. Камізэлька для хлопчыка з кішэняй спераду. На плячах няма швоў — завязкі або гузікі. Яркі кант — галоўная аздоба.*

*4. Фастрыгаванне на гэтай камізэльцы толькі на пярэдняй і задняй частках, плечавыя дэталі — непрашываныя. Спераду — вялікая праразная кішэня, якая заканчваецца маленькімі трохвугольнікамі з тканіны канта.*

*5. Камізэлька на вузкіх тонкіх шлейках, з вялікімі кішэнямі спераду. Фастрыгаванне — папярочнымі палосамі.*

*6. У гэтай камізэльцы галоўнае — розны накірунак строчак. Асноўная частка прашыта ўпоперак, какетка — шчыльнай касой прашыўкай.*

## ЗАПРАШАЕМ НА ГАРБАТУ

Цяжка знайсці чалавека, які б не любіў у доўгія зімовыя вечары выпіць шклянку гарбаты.. Прапануем аматарам гэтага цудоўнага напітку некалькі рэцэптаў.

### Малочная

Дзве чайныя лыжкі сухога чаю заварыць шклянкай кіпню,затым змяшаць са шклянкай падагрэтага малака. Цукар падаваць асобна.

### Мядовая з лімонам

Дзве чайныя лыжкі сухога чаю заварыць дзвюма шклянкамі кіпню, дабавіць 1/2 шклянкі мёду і сок аднаго лімона.

### Ліпавая

Тры сталовыя лыжкі сушаных кветак ліпы заварыць дзвюма шклянкамі кіпню, паставіць на агонь і варыць 10 мінут. Працадзіць, дабавіць па смаку цукар.

### Вітамінная

Змяшаць роўную колькасць сушаных пладоў шыпшыны і чорных парэчак. Затым сталовую лыжку здробненай сумесі заварыць дзвюма шклянкамі кіпню. Працадзіць, дабавіць цукар і мёд.

### Чайны бальзам

Лекавыя расліны – мяту, рамонак, душыцу і іншыя – змяшаць, адкінуць галінкі і дадаць сухі чай. Заварны чайнік абдаць кіпнем, дзве чайныя лыжкі сумесі заліць 1–2 шклянкамі кіпню. Настойваць 5–7 мінут.

### Мятная

У кіпень засыпаць сушаную мяту (2–3 сталовыя лыжкі на 1 л вады), посуд накрыць, даць гарбаце адстаяцца. Потым працадзіць. Падаваць з лімонам і цукрам.

### Рабінавая

Змяшаць 300 г сушаных ягад рабіны, 50 г маліны, 25 г сушаных лістоў парэчкі і заварыць кіпнем, даць настаяцца, працадзіць.

### Гарбата па-англійску

(На адну порцыю). У нагрэты чайнік для заваркі засыпаць 1 чайную лыжку сухога чаю, заліць 1/2 шклянкі кіпню ў два прыёмы, даць 5 мінут настаяцца. У цёплы кубак наліць спачатку 1/4 шклянкі гарачага малака або вяршкоў, затым – чай. Цукар дабаўляецца па смаку.

### Гарбата з сіропам з чорных парэчак

Моцна завараны чай настойваць 5 мінут, заліць 3/4 шклянкі падагрэтага сіропу чорных парэчак, перамяшаць. Такім жа чынам можна прыгатаваць малінавую, абрыкосавую, грушавую гарбату.

Пры сённяшнім дэфіцыце кандытарскіх вырабаў самі гаспадыні могуць прыгатаваць невялікі пачастунак да гарбаты.

### Пячэнне "Лясное"

Камяк цеста (3 шклянкі мукі, 200 г маргарыну, насечанага нажом, 1 яйка, 1/2 палачкі дражджэй, 1/2 шклянкі малака) ўтапіць у ледзяной вадзе. Праз 45 мінут ён усплыве. Вымешаць некрутое цеста. На дошку пасыпаць роўным слоем 250 г цукру і 200 г здробненых арэхаў. З гэтай сумессю раскатаць цеста, нарэзаць яго на ромбы і квадраты. Пячы ў духоўцы 15 мінут.

### Торт "Парэчачка"

Перамяшаць 1 шклянку кефіру, 1 шклянку варэння з чорных парэчак, 1 шклянку цукру, 1 чайную лыжку соды, пакінуць на 20 мінут. Затым дадаць 2 яйкі і 2,5 шклянкі мукі. Спячы тры каржы, прамазаць крэмам.

Крэм: 1 шклянка сметаны ўзбіваецца з 1 шклянкай цукру.

### Цукеркі "Вішнёвыя"

Расцерці драўлянай лыжкай 125 г сметанковага масла са шклянкай цукровай пудры. Не пакідаючы расціраць, дадаць 2 сталовыя лыжкі малака і расцёртыя жаўткі з двух звараных укрутую яек. У атрыманую пышную масу ўвесці дэсертную лыжку вішнёвага сіропу (можна земляночнага), парашок ваніліну, 250 г тоўчанага сметанковага пячэння, 2–3 сталовыя лыжкі молатых грэцкіх арэхаў і добра перамяшаць. Сфармаваць з атрыманага цеста невялікія шарыкі, пакласці іх на талерку, засланую карункавай папяровай сурвэткай, і злучыць па два сасновымі іголкамі, каб былі падобны да вішань з пладаножкамі.

### Цукеркі "Каштаны"

Адварыць пяць яек, выняць з іх жаўткі. Растапіць пачак маргарыну, пакласці ў яго 3 сталовыя лыжкі смятаны, соды на кончыку чайнай лыжкі, ванілін, расцёртыя жаўткі і ўсыпаць 2–2,5 шклянкі мукі. Цеста добра вымешаць і паставіць у халадзільнік на 40 мінут. Затым накатаць шарыкаў з грэцкі арэх і запячы ў духоўцы пры тэмпературы 150–200 градусаў на працягу 30–40 мінут. Далей падрыхтаваць глазуру: узяць 100 г малака, 1 сталовую лыжку цукровага пяску, 3–4 сталовыя лыжкі кавы і 100 г сметанковага масла. Усё гэта пракіпяціць да поўнага растварэння цукру, астудзіць. Надзерці на тарцы любыя вафлі. Гатовыя шарыкі апусціць у глазуру і абкачаць у вафлях. Цукеркі можна падаваць на стол.

*Гісторыі з працягам*

# МІФЧЫК № 6

Пралетарыі Амінін і Пасляпажарскі даволі часта ядналіся. І агаляліся, прапіваючы ўсё, да аковаў.

Неяк раніцой ачунялі, агледзеліся, а навокал дэмакратыя. Аковаў няма, знялі. Затое талоны на гарэлку ёсць. А дзе ж насвяткуешся ў бесталонныя будзені?

Амінін з Пасляпажарскім употай на заводзе змайстравалі наручнікі і...

У родным гастраномчыку Пасляпажарскі прыкаваўся да прылаўка: не дасцё бутэльку без талонаў — закатую сябе галадоўкай. Канец квартала спрыяў яму — у магазіне хоць у більярд гуляй.

Загмагарка прынюхалася — пахла як пасля трэцяга келіха.

А пасля трэцяга і ўся краіна не закусвала, трымалася...

— Паслухай,— зашаптала загмагарка самавязню,— галадоўкай сябе не дапячэш, пераходзь на самаспаленне, тады бутэльку атрымаеш. А калі ад цябе магазін з маёй недастачай займецца, дык я цябе зараз жа народным сродкам* выратую, не хвалюйся.

Яна мела рацыю, бо Пасляпажарскі быў наскрозь праспіртаваны і заняцца сінім полымем — раз плюнуць...

Амінін абраў іншы шлях. У вандэйскім заапарку ён прыкаваў сябе да клеткі з дзікімі звярамі, аддаючыся на з'ядзенне. Прынамсі, пакуль ад яго пахла, смяротная блізкасць не дзейнічала, і можна было разлічваць на поспех. Бо ў вандэйскім заапарку нядаўна з'явіўся і зялёны змей. Дарэчы, гарадок Вандэйск называўся так у гонар прагрэсіўнага замежнага мастака Ван Дэйка.

І нейкім часам пачалі ў тутэйшым заапарку няблага харчавацца. Птушкі хіба толькі грошай не дзяўблі, запіваючы сваім жа малаком, малпы аблуплівалі бананы, сланы вёдрамі паглыналі зялёны гарошак, драпежнікі рвалі і шпурлялі аргенцінскую ялавічыну, але... зараз яны з інтарэсам чакалі, калі вытхнецца Амінін.

А той у сваю чаргу спакойна чакаў, калі яму "пакажуць зялёнага змея".

Вядома было яму — адначасова з такім раскошным меню на адной з ціхутkіх вулачак знік спецмагазін-размяркоўнік, самая дзівосная кармушка ў гарадку. Дый не трэба ж быць пралетарыем, каб здагадацца, што старэйшым братам, якія выходзілі штодзённа адтуль з пісанымі торбамі, надакучылі глытаючы сліну тэлеаператары з газетчыкамі. І старэйшыя браты фантастычна-рыначнымі сродкамі аб'ядналі сваю кармушку з кармушкай малодшых братоў.

А хто папракне слана вядром зялёнага гарошку?

Але ж калі чалавек дае ад сябе адкусіць, каб пабачыць зялёнага змея, навокал ізноў збіраюцца тыя ж тэлеаператары.

І, каб адчапіцца, паказалі заапаркаўцы Амініну гэтага рэлікта нашай роднай айчыннай фауны...

Амінін з Пасляпажарскім паказалі вандэйчанам выйсце. Праўда, у гарадку неверагодна павысіліся цэны на наручнікі і іншыя аковы.

Дый прышпіліцца трэба было з розумам, а то ж, барані бог, зліцца ў адное са сталом чыноўніка якога-небудзь фонду аховы дзяцей ці сацыяльнага страхавання можна.

**Ільпя Шахрай.**

* Народны сродак – svedgaia mocha.




*Рэклама ў нумар*

## Прадаюць

- ☐ Самазвал БелАЗ-333, да абкаткі. Тэл. у Жодзіне 13-00-13, запрасіць Дзіму. Пасля 20.15 і пад час школьных вакацый не турбаваць.
- ☐ Шызаметр, трахаскоп. Тэл. 13-13-00.
- ☐ Схемы для канструявання й вырабу Вялікай кітайскай сцяны. Тэл. 00-13-13.
- ☐ Двухпакаёвую кватэру ў цэнтры з усімі камунальнымі няспраўнасцямі, аднаразовым тэлефонам, цешчай, двума зборна-разборнымі балконамі і рэактыўным ліфтам. 14 паверх, 8 кв.м. Запрасіць канструктара Шруба.

## Купяць

- ☐ Тэрміновa! 12 гузікаў жоўтага колеру, кокер-спаніеля, электраміксер, скрыпічны смык, кухню "Арышт", трохшпіндэльны лінейны станок. Тэл. 00–00-13.
- ☐ СКВ, ППШ, АКМ. Тэл. 13-13-13. Запрасіць Дато.
- ☐ А/м "Масквіч" 1949 года вырабу, без колаў, рухавіка, кузава, электраправодкі. У дрэнным стане не прапаноўваць. Тэл.13-00-13.

## Рознае

- ☐ Знік малады баксёр, карычневы, мянушка "Факс", а таксама каратыст, дарослы і ў кімано. Тэл. 02.
- ☐ Згубленыя тры рублі серыі ГЯ № 5272326 прашу лічыць несапраўднымі.
- ☐ Арганізацыя запрашае на працу сакратара-машыністку, якая падзяляе погляды Ігара Кона, Рут Дзіксан і Камасутры.

У рэкламным бюро дзяжурыў
А.Пахмялеўскі.




*Ліра сатырыка*

## Міні-мода

О хуткацечнай моды
Бег няспынны!
Хто нас ад моды-міні
Уберажэ?
Чым карацей
Сукенка ў жанчыны,
Тым рукі ў мужчын
Усё даўжэй.

**Міхась Мірановіч.**




### Радня і грошы

Размаўляюць знаёмыя гандляры:

— Пазыч мне 500 тысяч злотых.

— 500 тысяч злотых? Ну, ведаеш, такую суму я б не змог даць нават роднаму брату.

— Так, разумею. Хто ж лепш ведае сваю радню, як не ты...

### Памылка

Размова паміж сябрамі:

— Гэтай ноччу мне прысанілася твая жонка.

— І што яна казала?

— Нічога. Маўчала, як рыба.

— Ведаеш што? Ты памыліўся. Гэта была не мая жонка!

### Выправіць недахоп

— Пан дырэктар, учора на прафсаюзным сходзе Кавальскі востра крытыкаваў адміністрацыю за раздутасць штатаў.

— Добра, — адказвае дырэктар. — Заўтра мы яго звольнім.

Пераклаў з польскай
Вячаслаў Гілевіч.



Дзяжурны рэдактар А. АГІБАЛАВА. — Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена
ОРГАН ЦК ЛКСМ БЕЛАРУСІ

Заснавальнік: Саюз моладзі Беларусі
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906.



Зак. № 2.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12